Лозунг нумара:

**Закладзі сваю цаглінку ў падмурак III тысячагоддзя**

• У нумары •

• Неіэкспіраўскія страсці ў Магілёўскім тэатры •

• Шашкі і Адам Міцкевіч •

• Што вывучаюць на факультэце тэалогіі? •

• Пра Уладзіміра Высоцкага •

• У лабірынтах нямецкай турмы •






# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 3 (316) 24 — 30 студзеня 1998 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •


*25 студзеня — Таццянін дзень. Са святам, студэнты!*



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# У МІКОЛЫ БАЙРАЧНАГА ЁСЦЬ СВАЯ МУМУ. У ФРАНЦЫІ.

На поўначы Францыі, на беразе Ла Манша ёсць такі невялікі гарадок з назвай Анфлёр. Вядомы ён тым, што тут рэгулярна збіраюцца элітарныя тусоўкі, у тым ліку праводзяцца фестывалі расійскага кіно. Ці стане ён папулярны і сярод беларусаў? Ва ўсякім разе, хацелася б так думаць.

А справа вось у чым: летась у лістападзе ў гэтым горадзе была ўстаноўлена бронзавая скульптура сабакі-спаніэля па мянушцы Муму. Так, менавіта той самай, знакамітай тургенеўскай Муму.

На пастаменце-валуне, прывезеным... з Беларусі, — мілы сабака з... хвастом русалкі. Вы запытаецеся: прычым тут Беларусь? А пры тым, што аўтарам гэтай скульптуры з'яўляецца наш суайчыннік Мікалай Байрачны, адметны рознабаковы мастак, якому падуладныя і кераміка, і станковая скульптура, і кніжная графіка... На валуне выгравіравана: "Усім ахвярам любві..."

Але ўсё па парадку.

Вядомы расійскі кліпмейкер Юрый Грымаў задумаў ажыццявіць пастаноўку сваёй першай поўнаметражнай карціны паводле тургенеўскай "Муму". Задумана — зроблена. Цяпер работа завяршаецца, і ў хуткім часе глядач зможа ўбачыць яе на экранах. Ходзяць чуткі, што будзе два варыянты фільма: у адным ні ў чым не вінаватая жывёліна будзе ўтоплена Герасімам, а ў другім — застанецца жывая і "будзе доўгія гады жыць у любові і згодзе".

Мала таго, няўрымслівы Грымаў задумаў увасобіць легендарнага сабаку і ў пластыцы, пра што своечасова было паведамлена сродкам масавай інфармацыі. Чым не рэклама будучаму фільму?

Грымаў звярнуўся да беларускага мастака Уладзіміра Цеслера, а той, у сваю чаргу, прапанаваў увасобіць ідэю помніка Мікалаю Байрачнаму. Што і было бліскуча рэалізавана. Зманціраваў помнік таксама наш беларус — дызайнер Андрэй Васільеў.

Ані Жырардо, вялікая актрыса сучаснасці, адкрывала гэты дзіўны помнік. Поспех акцыі быў настолькі ашаламляльны, што мэрыя Анфлёра вырашыла ў хуткім часе разбіць тут маляўнічы сквер з утульнай алеяй. А яшчэ ходзяць чуткі, што Муму стане нібы сімвалам горада Анфлёра і эмблемай рускага кінафестываля.

І яшчэ. Ёсць задума ўсталяваць літаральна такія ж помнікі Муму ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. Прыкладна праз месяц будзе ажыццёўлена адліўка скульптуры ў бронзе і затым мантаж. І здаецца, мара Юрыя Грымава блізкая да здзяйснення.

Вось так, па словах Мікалая Байрачнага, "невінаватая жывёліна патанула, пераўтварыўшыся ў русалку..."

**Барыс КРЭПАК**





# ЗАКЛАДЗІ СВАЮ ЦАГЛІНКУ



15 мая 1998 года Магілёўскаму абласному драматычнаму тэатру спаўняецца 110 гадоў. Цікавы і няпросты ягоны лёс. Будынак тэатра пабудаваны на скрыжаванні дзвюх культур — на месцы маста, які быў перакінуты праз глыбокі роў, — несумненная прыкмета эпохі мінулай і эпохі цяперашняй, два полюсы гісторыі, што характарызуюць два ўклады жыцця — стары і новы, раздзелены стагоддзямі... Ідэя пабудовы ў Магілёве тэатра ўзнікла ў сярэдзіне сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, і ўжо тады пачаўся збор сродкаў на яго. Грошы сабралі, тэатр пабудавалі, але з-за недахопу гэтых самых грошай была выкарыстана няякасная цэгла, не былі зроблены сістэма пажарных лесвіц, сетка вадаправодных труб і шмат іншага. Праз 24 гады былі ўзведзены прыбудовы да тэатра і зроблены невялікія змены ўсярэдзіне. Аднак усё гэта сітуацыю не выратоўвала — будынак заставаўся ў бядотным стане.

**Сёння ў нашай рубрыцы "Беларусы — трэцяму тысячагоддзю: пытанне — адказ" — праблемы рэканструкцыі Магілёўскага драматычнага тэатра.**

**А калі зірнуць на яго сёння, амаль праз 110 гадоў? Што змянілася? Давайце паглядзім...**

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ НЕ ДА ЮБІЛЕЮ

***На пытанні нашых карэспандэнтаў аб ходзе рэстаўрацыі будынка Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра адказвае намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Ігар ЧАРНЯЎСКІ.***

**— Як вы ацэньваеце стан вядзення рэканструкцыі будынка Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, ці дастатковае фінансаванне гэтага аб'екта?**

— Праект рэканструкцыі зроблены па замове ўпраўлення культуры. Работы вядуцца адразу двума прадпрыемствамі. Рэканструкцыяй старой часткі займаецца "Магілёўрэстаўрацыя", новую частку, прыбудову да старой, узводзіць будтрэст № 17 "Лаўсанбуд". Камітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў фінансуе тую частку, якая непасрэдна датычыцца рэстаўрацыі. На 1997 год было выдаткавана 3,1 млрд.рублёў, на 1998 — 10 млрд. Летась быў зроблены даволі вялікі аб'ём работ. У асноўным гэта была цяжкая падрыхтоўчая работа: расчыстка памяшканняў, ачыстка ад тынкоўкі, апрацоўка раствораў, чарнавая падлога... Непасрэдна на рэканструкцыю было засвоена 1,6 млрд. выдзеленых грошай, астатняя частка пайшла на закупку будаўнічых матэрыялаў: літоўскай фасаднай цэглы, якая ў нас не вырабляецца, металічных канструкцый, сантэхзагатовак, стальных вырабаў. Сёння перад намі стаіць наступная задача: засвоіць на рэстаўрацыі дзесяць мільярдаў рублёў. Нядаўна прыйшоў на будоўлю галоўны інжынер, пасада якога вельмі доўгі час была вакантнай, ён павінен падрыхтаваць дакладны графік работ, каб распісаць грошы і вызначыць, куды накіроўваць большыя намаганні. На сённяшні дзень выстаўляюцца рыштаванні, вядзецца прабіўка новых праёмаў, выкладваецца дах з медных пласцін.

**— Якія цяжкасці і праблемы ўзнікаюць падчас работы?**

— Рэканструкцыя гістарычнага помніка — гэта вельмі складаны працэс. Праектныя работы ў асноўным закончаны, але падчас рэстаўрацыі ўзнікаюць нейкія аспекты, якія даводзіцца ўвесь час узгадняць з праекціроўшчыкамі, і ніколі не ведаеш, што, у літаральным сэнсе, адкапаеш заўтра. Напрыклад, лесвічныя маршы... Зараз стаіць пытанне, ці іх рэстаўраваць, ці рэканструяваць, вядзецца экспертыза, каб прыняць найбольш слушнае рашэнне. Мы каардынуем свае дзеянні з генеральным праекціроўшчыкам "Магілёўграмадзянпраект" і непасрэдным аўтарам праекта Аляксандрам Сіваковым. Вось зусім нядаўна ў сцяне з боку Дняпра лопнула мурoўка — узнікла вялікая трэшчына. Былі ўстаноўлены маячкі, каб вызначыць: працягваецца гэты працэс ці ўжо спыніўся. Магчымая

## ДЫК ХТО ТАМ БУДЗЕ НАКАПЛІВАЦЦА?

***Дырэктар і мастацкі кіраўнік Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Віктар КУРЖАЛАЎ сустрэў нас у кабінеце былога Дома палітасветы. У гэты чатырохпавярховік, што знаходзіцца адразу праз дарогу ад будынка драмтэатра, і перасялілася тэатральная трупа. Падчас размовы са спадаром Куржалавым з вакна кабінета можна было назіраць за працай будаўнікоў і рэстаўратараў: увесь ход работы быў бачны як на вялікай сцэнічнай пляцоўцы пад адкрытым небам.***




**— Спадар Віктар, вы задаволены ходам рэканструкцыі?**

— Адносна нашага часу — так, але ці буду я там працаваць — наўрад ці. Бо рэканструкцыя ператварылася ў "доўгабуд".

**— На ваш погляд, ці нармальна праходзяць рэстаўрацыйныя работы?**

— Гэты аб'ект уводзіцца ў строй дзвюма арганізацыямі. Гэта як дзве незалежныя дзяржавы. Тое, што робяць будаўнікі, бачым мы ўсе. Да ўсяго гэтага можна дакрануцца. Напрыканцы XX стагоддзя будаўнікі будавалі не развучыліся і робяць гэта не горш, чым сто гадоў таму. А калі завітаць да рэстаўратараў, дык нічога канструктыўнага там пабачыць нельга — толькі разбурэнні. Бо, зірнуўшы на чарцяжы і зробленае, бачыш, што аб'ект вельмі далёкі па сваёй распрацоўцы ад таго, каб у ім нармальна працаваў нейкі тэатр. Цудоўна распрацаваны ў даперабудовачны час праект дзесьці ў вярхах так адкарэктавалі, што многае, закладзенае ў ім, засталося па-за межамі рэальнасці альбо вельмі заблытана. Падумайце толькі: навошта пакой для накаплення акцёраў перад выхадам на сцэну зроблены ў зале для гледачоў? Я, канечне, задаю лагічнае пытанне:"Хто там будзе накаплівацца?" Дык лепш аддаць гэты пакой гледачам. Ці, да прыкладу, шукаю на планe пакой для рэквізітарскага цэха — і не знаходжу...

На сённяшні дзень мы пастаўлены ва ўмовы чыста нашыя — славянскія. Я не выключаю, што вынікі будаўніцтва могуць быць сумнымі, калі мы будзем спяшацца заехаць у гэты будынак. Як чакаеш кватэру і гатовы туды заехаць без унітаза, без ванны, без шпалераў і пры гэтым думаеш: "Бог з ім. Гэты кут я адтынкую — толькі б хутчэй зажыць". Таму сітуацыя на сённяшні дзень так і выглядае — хутчэй бы. Няма ніякай размовы пра акустыку, тэхналагічныя дзверы і вітражы. Будаўнікі тут ні ў чым не вінаватыя — яны робяць сваю справу досыць добра. Бо пра што можна казаць, калі размова пра рэканструкцыю будынка тэатра вялася з 1913 па 1992 год?.. Калі распачыналі рэканструкцыю, было важна — пачалі. Бо працаваць у тым будынку было ўжо немагчыма. Пажарнікі проста абрэзалі электрычныя кабелі, таму што гэта было вогненебяспечна. Калі ўскрылі сцэну, дык там аказаўся прамыў ажно на тры з паловай метры. Сцэна літаральна вісела ў паветры. Добра — пачалі, цяпер добра — хутчэй бы скончыць. У нас сама мадэль рэканструкцыі вельмі непаваротлівая. Да прыкладу, задайце пытанне Елізар'еву накошт рэканструкцыі Вялікага тэатра. Ён вам паведаміць, што будзе канец Вялікаму тэатру — гэта гады, дзесяцігоддзі. Запытайце, што ў Брэсце перажылі, што ў Гродна, што ў Бабруйску. Усё вельмі і вельмі праблематычна.

У нашага тэатра забаўны лёс. У нас дзесьці ёсць дакумент 1913 года, што быў падрыхтаваны да 25-годдзя тэатра. Дык ужо тады адзначалася, што "так, сапраўды, наш тэатр будаваўся хутка (яго пабудавалі за два гады) і таму ён патрабуе рэканструкцыі".

**— Вы можаце штосьці запрапанаваць у гэтай сітуацыі?**

— У будаўнікоў нашага драмтэатра на вагончыку напісана: "Тэрмін заканчэння будаўніцтва — снежань 1998 года". Хаця б за год да заканчэння можна сабраць інспекцыйную нараду з удзелам аблвыканкама, упраўлення культуры, гарадскога ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, гарвыканкама, будаўнічага трэста № 17, прадстаўнікоў магілёўскай і мінскай Белрэстаўрацыі, упраўлення капітальнага будаўніцтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і, зразумела, прадстаўнікоў магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Можа, разам мы зможам запрапанаваць нешта карыснае.

Маё глыбокае перакананне, што будаўнічыя работы сёлета можна было скончыць. Гэтую пазіцыю я ўжо неаднаразова выказваў, але складваецца ўражанне, што яна камусьці невыгодная.

**— Але пакуль вы тут. Таму ўзнікае пытанне: як тут вам жывецца?**

— У будынку Дома палітасветы разам з намі знаходзіцца абласная філармонія. Пры вялікай павазе адзін да аднаго мы перашкаджаем адзін аднаму.

**— Выступы вашага тэатра не застаюцца па-за ўвагай гледача?**

— У нас скláліся вельмі добрыя стасункі з жыхарамі горада і вобласці, ад іх паступае даволі шмат заявак на спектаклі. Стараемся па магчымасці выступаць у розных гарадах.

**P.S.** Яшчэ цікавы факт: асноўныя сродкі на рэканструкцыю будынка драмтэатра былі атрыманы дзякуючы кіраўніку Магілёўскага аблвыканкама Аляксандру Кулічкову, які пераканаў Аляксандра Лукашэнку скарыстоўваць на рэстаўрацыю грошы ад продажу канфіскаванай гарэлкі.

## З ГІСТОРЫІ...

Будынак Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра ўзведзены ў 1886 — 88 гг. паводле праекта архітэктара П.Камбурава і інжынера В.Мільяноўскага. Будаўніцтва паклала пачатак фарміраванню Тэатральнай плошчы горада. Цагляны прамавугольны будынак мае складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У планіровачным вырашэнні цэнтральнае месца займае прамавугольная глядзельная зала з закругленай задняй сцяной. У кампазіцыі галоўнага фасада дамінуюць дзве вежы, тамбур і тэраса над ім пры ўваходзе, да якога вядзе двухбаковая лесвіца. У архітэктурным дэкоры фасада выкарыстана спалучэнне адкрытай кладкі з чырвонай цэглы і белых атынкаваных дэталей псеўдарускага стылю (зубчыкі, сухарыкі, какошнікі і сандрыкі ў абрамленні аконных праёмаў і нішаў розных формаў). Першы спектакль у тэатры адбыўся 15 мая 1888 года.

прычына зараз вызначаецца інжынерамі.

**— Новая і старая часткі, як яны суадносяцца, наколькі гарманічна выглядае ўся кампазіцыя?**

— Старая частка захоўваецца амаль на сто працэнтаў. З тыльнага боку з'явіліся падсобныя памяшканні, сцэнічная частка, унутраны дворык (накшталт летняга тэатра пад адкрытым небам) — усё гэта выглядае вельмі гарманічна. Свядома не рабілася падробка новай часткі пад старую, іх можна будзе адрозніць, не ў гэтым была мэта. Галоўнае, што важны для горада і ўсёй Беларусі помнік архітэктуры і культуры будзе адноўлены і будзе функцыянаваць.

**— Калі аб'ектыўна, ці будуць закончаны работы да адзначанага тэрміну — 110-годдзя пабудовы тэатра?**

— Мне б не хацелася, каб рэканструкцыя "падганялася" пад юбілей. На рэканструкцыі нельга весці вялікія аб'ёмы работ, тут ёсць свая спецыфіка, шмат ручной работы. Можна было б сабраць на аб'екце шмат людзей і рабіць усё вельмі хуценька, але такое магчыма толькі на новай будоўлі, а не на рэстаўрацыі старога будынка. У рэшце рэшт, можна правесці юбілей у будынку, які яшчэ рэстаўруецца, — гэта даволі часта робіцца за мяжой. Я не хачу, каб здадзены да нейкага юбілею аб'ект пачаў развальвацца адразу пасля гэтага юбілею.

## У СТЫЛІСТЫЦЫ ПЕРШАПАЧАТКОВАГА ВАРЫЯНТА

***На пытанні газеты "Культура" адказвае старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрый БУБНОЎСКІ.***

**— Ці з'яўляецца будынак Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра гісторыка-культурнай спадчынай?**

— Так, з'яўляецца. Хоць пра яго мала хто ведае, пра яго не так шмат пішуць, але гэта тым не менш не зніжае яго каштоўнасці. Увогуле Магілёў — гэта вельмі цікавы горад з цяжкім лёсам і унікальнай спадчынай. Ён неаднаразова знішчаўся, але ў ім захавалася шмат цікавых аб'ектаў: чаго вартыя ансамбль Мікольскага манастыра і Магілёўскі абласны драматычны тэатр, які несумненна з'яўляецца лепшым мастацкім будынкам у горадзе.

**— Зараз вядзецца рэканструкцыя і будаўнічыя работы па аднаўленні тэатра. Як вы ацэньваеце сам праект і ход работ?**

— Хоць і не ў першым варыянце, са зменамі і дапаўненнямі, што палепшыла яго вартасць і якасць, праект быў узгоднены на дзяржаўным узроўні і таму адпавядае ўсім патрабаванням. Да выканання работ я стаўлюся вельмі паважліва. Улічваючы аб'ём і значнасць аб'екта, вытрымліваецца належны ўзровень.

**— Ці адпавядае праект рэканструкцыі захаванню гістарычнага каларыту будынка?**

— Так, каларыт захоўваецца. Але разам з тым паляпшаюцца функцыянальныя якасці тэатра. Усё, што дадаецца новага да гістарычнага будынка, дадаецца ў стылістыцы першапачатковага варыянта...

**— Да старога будынка дарабляецца шмат новых прыбудоў, якія функцыянальна неабходныя для дзейнасці тэатра, але ці не губляецца першасны гістарычны выгляд будынка?**

— Дапаўненні будуюцца за сцэнічнай каробкай, фасад застаецца першапачатковым. Я лічу, што змены ў праекце цалкам абгрунтаваныя, прыстасаванне гістарычных каштоўнасцяў да новых умоў патрабуе ўнясення нейкіх новых элементаў. Тут спрацоўвае функцыянальны падыход. У адносінах да тэатра — гэта сцэнічныя прыстасаванні. Калі не рабіць гэтых змен, то будуць абмежаваныя магчымасці тэатра, рэжысёры не змогуць шмат чаго зрабіць. Спектаклі будуць менш захапляльнымі, відовішчнымі. Мы не можам цалкам захаваць тое, што было раней. Калі ўзяць, напрыклад, які-небудзь замак, мы ж не можам паставіць на яго вежах гарматы і да іх прыставіць гарнізон салдат у адпаведным гістарычным адзенні. Гэта было б вельмі цікава, але для вырашэння вельмі складана. Што ж тычыцца змен у архітэктурнай пабудове тэатра, то тут спрацоўвае своеасаблівы закон, што чалавек больш яскрава ўспрымае тое, што знаходзіцца на першым плане, а тое, што размешчана дзесьці ў глыбіні кампазіцыі, губляе сваю актуальнасць і яркасць. Рэканструкцыя гістарычных аб'ектаў вельмі складаны працэс. Праекціроўшчыку даводзіцца балансаваць на вельмі маленькім прасторава-часавым прамежку. Невялікае адхіленне ў той ці іншы бок можа кардынальна змяніць успрыняцце аб'екта, але часам гэтыя адхіленні вельмі неабходныя. Тут цэлая свая навука.

**— 15 мая гэтага года тэатру спаўняецца 110 гадоў. Меркавалася, што ўсе работы будуць скончаны да гэтага тэрміну. Ці лічыце вы неабходным "падганяць" рэканструкцыю гістарычных аб'ектаў да нейкіх юбілейных дат?**

— Я разумею, пра што вы гаворыце. Я таксама за тое, каб усё было зроблена якасна, але ў адносінах да нейкага гістарычнага аб'екта і, у прыватнасці, да будынка Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра было б вельмі добра, каб рэканструкцыя адбылася да юбілею і гэты юбілей быў адзначаны непасрэдна нейкай пастаноўкай. Я ведаю, што калі будаваўся Дрэздэнскі оперны тэатр і работы былі зроблены толькі напалову, пачаўся распродаж білетаў на першую пастаноўку, і дата яе была дакладна вядомая. Можа, справа ў тым, што немцы могуць больш дакладна скласці графік работы, але нашыя спецыялісты нічым не горшыя. Таму я спадзяюся, што ўсё будзе зроблена якасна і ў тэрмін.



## МЫТНІКІ РАТУЮЦЬ КУПАЛЫ

***Сваю характарыстыку рэканструкцыі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра ад імя ўпраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама даў вядучы інжынер Сяргей КУЦ.***

— Пытанне аб рэканструкцыі тэатра ўздымалася за апошнія дваццаць гадоў неаднаразова. Улічваючы, што ў 70-я гады сродкі выдаткоўваліся Міністэрствам культуры ў досыць абмежаванай колькасці, немагчыма было ажыццявіць праект у тым памеры, у якім хацелася б вобласці. Першапачатковы праект быў зроблены нашым інстытутам "Магілёўграмадзянпраект". Галоўны архітэктар праекта Уладзімір Кузняцоў. Праект быў дастаткова грунтоўны і ўключаў у сябе вялікія аб'ёмы працы. Але вобласць гэткіх сродкаў адшукаць не магла. Міністэрства культуры пасля разгляду праекта выдаткоўваць сродкі адмовілася. Атрымалася, што на нейкі перыяд тэатр застаўся без будынка.У тым стане, у якім будынак быў на той перыяд, ён заставацца не мог, бо цяжка было працаваць артыстам, цяжка было ажыццяўляць нейкія вытворчыя пытанні. Трэба было шукаць нешта іншае. На ўзроўні абласнога кіраўніцтва прымалася некалькі рашэнняў. Меркавалася павялічыць вытворчыя цэхі, каб хоць неяк аблегчыць працу трупы, або вынесці гэтыя вытворчасці з будынка тэатра. Гэта ж зноў патрабавала значных грашовых сродкаў. Атрымлівалася, што выдаткаваць вялікія сродкі на праект, які не задавальняў грамадскасць горада і тэатр, не мела сэнсу.

**— Як вядзецца рэканструкцыя будынка тэатра?**

— Каштарыс рэканструкцыі 100 мільярдаў рублёў. 50 — на рэстаўрацыю, 50 — на будаўніцтва. Зроблена — дзесьці на 15 мільярдаў будаўнікамі і на 3 — 5 мільярдаў рэстаўратарамі. Работы па рэстаўрацыі і будаўніцтве выконваюць два генеральныя падрадчыкі — будтрэст № 17 "Лаўсанбуд" і дзяржаўнае прадпрыемства "Магілёўрэстаўрацыя". Асноўнае фінансаванне адбываецца дзякуючы вобласці. Першы ўзнос на рэстаўрацыю (4 мільярды рублёў) ад Міністэрства культуры мы атрымалі толькі ў 1997 годзе, а дагэтуль работы вяліся цалкам на сродкі вобласці. Хочацца, каб будаўнічыя работы добра спалучаліся з рэстаўрацыйнымі, каб ніхто нікога не чакаў. Але на сёння будаўнічая частка праекта выконваецца значна лепш.

**— Вас задавальняе якасць працы?**

— Будаўнікі працуюць вельмі добра. Брыгада досыць прафесійная. Яны ўжо маюць вопыт працы на падобных складаных аб'ектах. Што датычыцца рэстаўратараў, то, на жаль, іх тэмпы і якасць нас не надта задавальняюць.

**— Праблемы з матэрыяламі ў будаўнікоў і рэстаўратараў ёсць?**

— Да прыкладу, досыць доўга мы выбіралі цэглу. Былі на розных заводах Расіі. Прывозілі адтуль узоры, паказвалі будаўнікам. Але выбралі цэглу, што вырабляецца ў літоўскім горадзе Яшунай. Дарэчы, летась адна такая цагліна каштавала каля долара.

Яшчэ падчас праектавання ўзнікла праблема з пакрыццём даху, тое, што гэта будзе не чорнае жалеза, зразумела было адразу. Меркавалася зрабіць ацынкаваны дах, пафарбаваць яго адпаведнымі фарбамі, але ўлічваючы, што гэта помнік архітэктуры і культуры, хацелася зрабіць яго знешні выгляд яркім і запамінальным. Прыйшлі да высновы, што было б добра пакрыць асноўныя купалы, якія відаць здалёк, меддзю. Знайсці медзь павінна было ўпраўленне культуры аблвыканкама, у той час гэта было вельмі складана. Зусім выпадкова выйшлі на магілёўскую мытню — ні для кога не сакрэт, што праз беларускую мяжу робяцца спробы нелегальнага правозу каляровых металаў, у тым ліку і медзі. Дзякуючы кіраўніцтву мытні і праваахоўчым органам мы займелі так неабходны нам метал. А далей, як гаворыцца, справа тэхнікі — на металургічным заводзе ў Расіі былі зроблены адпаведныя пласціны.

**— Як вядзецца будаўніцтва новай часткі тэатра?**

— У новай частцы будзе размешчана сучаснае абсталяванне: асвятляльнае і гукавое, таму тут вельмі складаны аб'ём работы, складаныя інжынерныя работы. Хацелася б, каб якасць будаўніцтва была як мага больш высокай, на жаль, гэтага не заўсёды ўдаецца дасягнуць.

**— Калі не задавальняе кваліфікацыя падрадчыкаў, ці нельга знайсці іншых?**

— Гэта вельмі складанае пытанне. Калі будуць новыя будаўнікі, дык будуць і новыя каштарысы. А падругое, коней на пераправе не мяняюць, тым больш, што на замену спатрэбіцца час, якога нам і так нестае. Мы вельмі баімся, што праз два гады будаўнікі закончаць усе свае работы і сыдуць, а рэстаўратары будуць працаваць яшчэ гадоў дваццаць. Мы ж хочам, каб усё было гарманічна, каб аб'ект быў здадзены ў комплексе.

## КУДЫ ПАДЗЕЦЦА АКЦЁРУ?

***У сілікатным доміку для будаўнікоў сядзеў за канцылярскім сталом прараб БУ-58 Міхаіл ГАЛІНОЎСКІ — у касцы і целагрэйцы. Адчувалася, што за ягоным сталом нешта абмяркоўваюць, магчыма, "на хуткую руку" п'юць гарбату, а пасля адразу на аб'ект — на будоўлю новых карпусоў драмтэатра.***



**— На сённяшні момант як з фінансаваннем вашых работ?**

— Фінансаванне было ў поўным памеры. І, па-мойму, летась прафінансавалі нас добра. Хоць цяпер я не выключаю сітуацыю, што грошы, накіраваныя менавіта на гэтае будаўніцтва, пусцілі і па іншых аб'ектах, таму мы не атрымалі нейкіх матэрыялаў. Але ў свой час, калі тут была запазыка па работах, каб людзі не стаялі, наш трэст перакідваў грашовыя сродкі з іншых аб'ектаў.

**— Якія сродкі ўжо ўкладзеныя ў будоўлю?**

— Я не ведаю лічбаў за ўвесь перыяд будаўніцтва. Магу толькі сказаць, што летась грошы на заробкі нам выплочвалі па факту выканання пэўнага аб'ёму работы. Праўда, грошы на матэрыялы мы атрымліваем загадзя.

**— Дык прастояў у вас не бывае?**

— Вялікіх не. Канечне, тут можна было б працаваць лепш. Але для гэтага трэба, безумоўна, большае фінансаванне.

**— Што вы можаце сказаць пра сваіх суседзяў-рэстаўратараў?**

— Ну, дрэннага я сказаць нічога не магу. Але, канечне, зробленыя імі работы, як кажуць, маглі б быць лепшыя. Можа ў іх працуе недастатковая колькасць людзей? Думаю, што ім яшчэ патрабуюцца працаўнікі альбо варта падоўжыць тэрміны здачы аб'ёму работ.

**— Дырэктар тэатра Віктар Куржалаў выказаў такую думку, што было б няблага ўводзіць драмтэатр у эксплуатацыю па частках. Каб збудаваную частку тэатра ўводзіць у першую чаргу, а другую, што рэстаўруецца, праз нейкі час. Тады калектыў тэатра змог бы засяліцца ў гэтым годзе.**

— Так, размова была, каб нейкія памяшканні падрыхтаваць і даць магчымасць акцёрам тут працаваць. Бо Дом палітасветы для тэатра проста не прыстасаваны. Яны хочуць сюды перасяліцца, але, праўда, тут не будзе залы для гледачоў. У акцёраў ёсць жаданне атрымаць хаця б пакоі пад інвентар. Мы паабяцалі, што па магчымасці пойдзем насустрач. Пакуль у будынку няма аконных блокаў, каналізацыі — сёлета гэта ўсё будзе рабіцца.

**— У вас ёсць адчуванне важнасці, надзвычайнасці сваёй працы, бо вы ж працуеце над тэатрам?**

— Канечне. Нездарма ж сюды накіроўваюцца лепшыя будаўнікі. Да прыкладу, тут працаваў брыгадзірам заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь Аляксей Макараў. Многае з таго, што сёння бачаць магіляўчане і госці Магілёва, калі праходзяць ля новых карпусоў тэатра, зроблена пад ягоным кіраўніцтвам.



**Аўтары матэрыялаў разгорткі Міхась БАШУРА і Зміцер ВОЛКАЎ.**

№ 3 24 — 30 студзеня 1998.

З XII з'езда кампазітараў Беларусі

# МУДРАСЦЬ ВЫБАРУ




У другім сімфанічным канцэрце з'езда кампазітараў 18 студзеня прагучалі творы, напісаныя ў апошнія гады. Як і заўсёды, у такіх справаздачных канцэртах аўтары імкнуліся паказаць тое, што, на іх думку, найбольш яскрава адлюстроўвае іх творчыя памкненні, выяўляе накірунак пошукаў або з'яўляецца вынікам шматгадовай духоўнай працы. І калі для Уладзіміра Дарохіна (Паэма для аркестра) і Галіны Гарэлавай (Канцэрт для трамбона) гэтае выступленне перад слухачамі не мела прынцыповага значэння як з'явы ў іх творчым жыцці, то пра іншых двух аўтараў — асобная гаворка.

Малады кампазітар Алег Хадоска і прызнаны мэтр Генрых Вагнер закранулі вельмі тонкую матэрыю — інтанацыйны пласт народнай музыкі, які ў прафесійным мастацтве ўжо аброс добра распрацаванымі формамі і метадамі ўвасаблення, сваёй знакавай сістэмай і традыцыямі, стылістыкай, якая стала прыкметай пэўнага часу. Ужо сам зварот да гэтай тэматыкі, асабліва калі народная песня даецца, як цытата, тоіць небяспеку. Але, як бачым, тая шырокая плынь, што захапіла ў свой вір кампазітараў на цэлае стагоддзе, хвалі якой то ўздымаліся, то ападалі, дакацілася амаль да трэцяга тысячагоддзя і сёння вабіць нашых сучаснікаў сваімі нераскрытымі таямніцамі і патэнцыйнымі магчымасцямі.

Сімфанічная паэма "Сымон-музыка" Алега Хадоскі, цалкам удалы твор маладога аўтара, спадабаўся слухачам сваёй чысцінёй гукапісу, пазнавальнасцю вобразаў і сюжэтных хадоў, даверлівасцю і шчырасцю інтанацыі. Аўтар паказаў дасканалае валоданне драматургіяй, заснаванай на літаратурным сюжэце і добрым веданні творчасці папярэднікаў.

У гэтым перайманні няма нічога заганнага, бо яно сведчыць аб трапяткіх адносінах аўтара да нацыянальнай спадчыны, падкрэслівае пераемнасць традыцыі і цалкам натуральнае развіццё маладога таленту.

Калі Алега Хадоску чакае наперадзе яшчэ доўгі прафесійны шлях блукання па пакутах і творчых спакусах, то для Генрыха Вагнера, які плённа папрацаваў ва ўсіх складаных і простых формах і жанрах, авалодаў усімі таямніцамі прафесіі, зварот да народнай песні — покліч сэрца, падзяка зямлі, якая дала яму жыццёвы прытулак, узгадавала яго. Да народнай песні, танца, мелодыі за сваё багатае творчае жыццё кампазітар звяртаўся неаднойчы. Маленькія дзеткі пачынаюць вучыцца музыцы, іграючы просценькія апрацоўкі для фартэпіяна. Дарослыя выконваюць канцэртныя фантазіі і варыяцыі. Народная песня стала стрыжнем знакамітай сімфанічнай паэмы "Вечна жывыя", сюіты "Родныя напевы", Канцэрта для хору.

Усе гэтыя творы лагічна прывялі да стварэння Чацвёртай сімфоніі, дзе любоў да Беларусі, яе народа, яго песні падкрэслена словам Канстанцыі Буйло. Мелася пэўная рызыка ў выкарыстанні не проста цытаты вядомага твора, а поўнага выкарыстання песні, любімай беларусамі ўсяго свету, лірычнага гімна нацыі.

За словамі "Люблю наш край, старонку гэту..." крыецца і гісторыя і душа як усяго народа, так і асобнага чалавека са сваім жыццём і сваімі адчуваннямі. У чатырох частках сімфоніі Г.Вагнера разгортваюцца старонкі жыцця і пачуццяў лірычнага героя. Усё ў сімфоніі як мае быць: роздум змяняецца жанравымі сцэнамі (І частка), хмаркі драматызму разганяюцца свежым паветрам стыхіі танца (ІІ частка), натуральна, цытаванне непрыкметна змяняецца тонка стылізаванай пад народную аўтарскай тэмай (ІІІ частка), якая ў сваім варыяцыйным развіцці дасягае ўсё большай прасторы і вышыні. Вяртае на зямлю ўсё тая ж шчымлівая, такая родная ўсім мелодыя. Пры ўсёй маёй насцярожанасці павінен прызнаць, што аўтар пераканаўча адолеў пастаўленую творчую задачу, і на гэты раз цытаванне прыйшлося да месца. Становішча ратуе тое, што жывы чалавечы голас ў асобе народнага хору з'яўляецца не дзеля дэкларавання ідэі, не як дэкаратыўны элемент. Ён удзельнічае раўнапраўна і віртуозна ў шматгалоссі сімфанічнага аркестра, ва ўсіх складанасцях драматургічных ператварэнняў і ўвасабленняў, лагічна пражывае сцэнічнае жыццё і прыходзіць да канчатковых высноў. Хор пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Дрынеўскага выявіў сябе надзвычай гнуткі і высакародна, інтанацыйна і дынамічна вывераны, аркестр пад кіраўніцтвам Анатоля Лапунова спрыяў незвычайнаму сугуччу і садзейнічаў гарачаму прыёму новага твора.

У кожнага мастака надыходзіць час, калі хочацца выказаць самае галоўнае і важнае. Якую форму выбраць для гэтага, які жанр, якія знайсці словы?

Сталы майстар наўмысна выбраў яшчэ даволі рэдкі сінтэтычны жанр сімфоніі, спалучанай з хорам і паэтычным словам. Можна толькі павіншаваць маэстра з творчай смеласцю, удачай і мудрым выбарам.

**Віктар ВОЙЦІК,**
**кампазітар**

**P.S.** Сёлета 17 студзеня ў Доме літаратара адбылося пленарнае пасяджэнне XII з'езда Беларускага Саюза кампазітараў. Старшынёй праўлення аднагалосна быў абраны народны артыст СССР, народны артыст Беларусі кампазітар Ігар Лучанок.

**В.В.**

# ДРАМА СА "ШЧАЎКУНКОМ"

Зразумела, з героем казкі Гофмана "Мышыны кароль..." нічога больш драматычнага за тое, што ўжо адбылося, здарыцца не можа. І тым не менш, сустрэча маленькіх гледачоў з персанажам навагодняй казкі "Шчаўкунок" — заўсёды падзея ў дзіцячым жыцці.

Сцэна сталічнага тэатра-студыі кінаакцёра падарыла на Раство вялікім і маленькім аматарам тэатра драматургічную версію знакамітага твора. Мяркую, што прафесійны крытык пасля прагляду спектакля рэжысёра Сяргея Паляшчэнкава будзе ўражаны не менш за дзіця, якое ўпершыню назірала навагоднія цуды ператварэння цацак у людзей. І гэта — таксама падзея.

Калі на прэс-канферэнцыі журналісты не пачулі пра "смажаныя" факты, аздобленыя акцёрскімі плёткамі пра нараджэнне чарговага спектакля, дык ад сябе я мушу дадаць: мастак Ніна Гурло, Леанід Прудлнікаў і рэжысёр Сяргей Паляшчэнкаў (эпатажны, на мой погляд) стварылі за адзін (1!) месяц не толькі казачную феерыю, але і подзвіг. Безумоўна, выхаваны глядач запытаецца пра музыку. Бо нават знясіленага змаганнямі Шчаўкунка цяжка сабе ўявіць без гукаў з аднайменнага балета Пятра Ільіча Чайкоўскага. Лішне казаць пра асацыяцыі і мае асабістыя дзіцячыя ўражанні, калі ўпершыню пачула знакаміты "Танец феі Дражэ"... Адзначу толькі, што музыку для драматычнага спектакля напісаў вядомы беларускі кампазітар Алег Залётнеў. Інсцэніроўка, дыялогі належаць пяру маладога драматурга Алены Паляшчэнкавай, жонкі рэжысёра. Дарэчы, наконт "пачуцця локця" і генетычнага кода: ролю Мары выконвае 14-гадовая Ганна Казючыц — дачка таленавітага акцёра Юрыя Казючыца, які пайшоў ад нас пяць гадоў таму.

Я не ўтрымалася ад спакусы паставіць перад Аняй Казючыц некалькі пытанняў.

**— Ці пойдзеш ты бацькавым шляхам?**

— Безумоўна. Праз два гады, пасля заканчэння школы, мяркую паехаць у Маскву, каб паступаць у знакамітую "шчэпкінскую" вучэльню. Як тата.

**— Ты надзвычай падобная знешне да свайго бацькі: бялявая, колер вачэй...**

— Дзякуй. Я толькі цяпер усвядоміла ролю дачкі тэатральнага акцёра — майго таты. Увогуле, пачынаю спасцігаць самастойна акцёрскае жыццё. Аб іншым нават і не мару. А фатаграфія з вашай газеты, што змешчана ў артыкуле "Мой тата — Амфітрыён", і дасюль стаіць на пісьмовым стале ў маім пакоі...

**— Казачных поспехаў табе, дачушка непаўторнага Амфітрыёна беларускай сцэны.**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**



*Сям'я акцёра Юрыя Казючыца. 1993 год. Фота з архіва "К".*

# МУЗЕЙНАЙ СПРАВЕ ВУЧАЦЦА Ў ГОРАДЗЕ-МУЗЕІ

За сваё дваццацігадовае існаванне Беларускі універсітэт культуры выхаваў не адно пакаленне мастацтвазнаўцаў, бібліятэкараў, акцёраў, рэжысёраў і іншых супрацоўнікаў у сферы культуры.

У апошнія гады наспела вялікая неабходнасць у падрыхтоўцы спецыялістаў па музейнай справе. Тры гады таму першыя студэнты БУК пачалі нялёгкі шлях па авалодванні гэтай цікавай прафесіяй. На першых курсах ішло азнаямленне з тэарэтычнай часткай сваёй спецыялізацыі. Але ж які музейшчык без практыкі?

Сёлета ўпершыню дзякуючы дэкану факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм БУК Алегу Трусаву мы, студэнты гэтай новай спецыялізацыі, мелі магчымасць прайсці практыку не па экспанатах і фотаздымках, а ў "жывым музеі" — горадзе Гродна.

На працягу месяца студэнты знаёміліся з архітэктурнымі помнікамі горада, такімі, як Стары замак на Замкавай гары, Барысаглебская царква, фарны касцёл Вітаўта.

У хатцы-музеі "Гарадніца" мы даведаліся аб вялікім унёску ў развіццё горада вядомага мецэната, гаспадарчага дзеяча Антонія Тызенгаўза (1733 — 1785 гг.). Па ягонай ініцыятыве заснаваны Гродзенскія каралеўскія мануфактуры, пабудаваны гродзенскія дамы Тызенгаўза, адкрыты тэатр і Кадэцкі корпус, медычная школа.

Пабачылі мы і самую старажытную аптэку на Беларусі, якая была пабудавана ў XII стагоддзі. Яна дзейнічае і дасюль, адначасова з'яўляючыся музеем з унікальнымі экспанатамі фармакалогіі тых часоў... Мы адчулі дух старажытнасці, што пануе ў горадзе. Практыка сапраўды надала імпэту да працягу вучобы!

**Людміла ПЕТРУЛЕНІТЭ,**
**студэнтка БУК.**



*Злева направа: Арсен Ваніцкі, старшыня Беларускага таварыства дружбы, і Чжао Сідзі.*

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася вечарына з нагоды 6-й гадавіны ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Кітайскай Народнай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь. У ёй узялі ўдзел Першы намеснік міністра замежных спраў РБ Сяргей Мартынаў, Пастаянны і Паўнамоцны прадстаўнік РБ у СНД Сяргей Посахаў, старшыня таварыства "Беларусь — Кітай" паэт Анатоль Вярцінскі, супрацоўнікі пасольства Кітая і кітайскія спецыялісты, якія працуюць у Мінску, актывісты таварыства "Беларусь — Кітай".

Напрыканцы вечарыны Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР Чжао Сідзі ўручыў Беларускаму таварыству дружбы падарунак — відэаапаратуру і кінапраектар.

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "ВЫДАННІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА"

***Пад такой назвай Музеем гісторыі Магілёва арганізавана выстава ў памяшканні Магілёўскай абласной бібліятэкі.***

На выставе з фондаў музея прадстаўлены каля 100 арыгіналаў выданняў 50 — 90-х гадоў XX ст., выдадзеных беларусамі ў Англіі, ЗША, Італіі, Іспаніі, Германіі, Канадзе, Францыі. Гэта мастацкая, гістарычная, музыказнаўчая, рэлігійная літаратура, перыядычныя выданні: "Беларус", "Царкоўны пасланец", "Голас царквы", "Летапісец", "Божым шляхам", паштоўкі, канверты, буклеты выстаў, карты Беларусі, выдадзеныя нашымі суродзічамі, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, але дбалі аб сваім унёску ў навуку і развіцці яе культуры. У фонды музея ўсе гэтыя выданні трапілі ад дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) Вітаўта Кіпеля (ЗША), Юркі Васілеўскага (ЗША), айца Аляксандра Надсана (Англія) і іншых. Уступную даведку да выставы напісаў В.Кіпель.

29 снежня 1997 г. на адкрыццё выставы прыйшло шмат студэнтаў філфака і гістфака Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, выкладчыкі, бібліятэчныя работнікі. Перад імі выступіў дэкан універсітэта, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Яраслаў Клімуць, які распавёў пра гісторыю беларускага друку ў замежжы, адзначыўшы, што беларусы за мяжой, незалежна ад палітычных поглядаў і рэлігійнай прыналежнасці, вялі актыўную грамадскую і выдавецкую дзейнасць. Дарэчы, і на выставе прадстаўлены беларускія рыма-каталіцкія, грэка-каталіцкія выданні і выданні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы (БАПЦ), пратэстантаў. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч падзяліўся сваімі ўспамінамі аб Алесі Салаўі, з якім вучыўся ў адной школе, якому чытаў свае першыя вершы. Акрамя вершаў на адкрыцці выставы, якую аформіў мастак Мікалай Цітоў, гучала беларуская музыка XVI — XVII стст. у выкананні на цымбалах студэнтаў Магілёўскага педфака Беларускай акадэміі музыкі А.Архіпавай і В.Дзядкоўскай.

Найбольшы інтарэс з боку гледачоў выклікалі кнігі Н.Арсенневай, У.Глыбіннага, Б.Рагулі, А.Салаўя, "Запісы" БІНіМа, С.Брагі, А.Баграовіча, М.Куліковіча, падручнікі на беларускай мове для дапаможных канадскіх школ, зборнікі "Ля чужых берагоў", да ўгодкаў БНР і іншыя выданні.

Падобная выстава — першая на Магілёўшчыне. Абласной бібліятэцы перададзена частка выданняў, якія меліся ў музеі ў некалькіх асобніках. Выстава будзе працаваць да сярэдзіны лютага 1998 г., каб усе, хто жадае, мелі магчымасць дзякуючы абласной бібліятэцы не толькі пабачыць, але і пачытаць выданні беларускага замежжа.

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар Музея гісторыі Магілёва.**



Віцебскі мастак, разьбяр па дрэве і скульптар Аляксандр Слепаў стаў нядаўна пераможцай конкурсу, прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння К.Малевіча.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# У СКАРБОНКУ "ЗДРАЎНЁВА"

У тым і цуд нашага жыцця, што яно перайначваецца час ад часу. І ўжо калісьці забароненыя кнігі займаюць сваю нішу ў культурным жыцці Беларусі.

...Канец 20-х гадоў — цяжкі час для беларускай культуры і навукоўцаў, што прысвяцілі свае жыццё адраджэнню нацыянальнага духу і свядомасці.

Сярод іх Усевалад Ігнатоўскі, беларускі гісторык, у свой час — нарком земляробства БССР, у 1921 — нарком асветы, стваральнік падручніка "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі". Пад уплывам марксісцкага часу Ігнатоўскі грашыў некаторай неаб'ектыўнасцю ў выкладанні гістарычных фактаў, але ж гэта быў першы школьны падручнік па гісторыі нашай краіны.

Аркадзь Смоліч вядомы нам не толькі як палітычны дзеяч перыяду аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, а таксама як аўтар "Геаграфіі Беларусі".

Успамінаецца аўтар "Роднага слова" Сцяпан Некрашэвіч — беларускі мовазнаўца. Яму належыць шэраг навуковых прац у галіне беларускага правапісу і напрацовак навуковай тэрміналогіі. Праз год пасля прызначэння на пасаду віцэ-прэзідэнта АН БССР ён быў сасланы ў Удмурцію. У 1937 годзе — расстраляны.

Такі ж трагічны лёс напаткаў і іншых аўтараў названых падручнікаў. У.Ігнатоўскі быў зняты з усіх пасад, выключаны з партыі. Зняважаны хлуслівымі абвінавачваннямі прэзідэнт АН Беларусі ў 1931 годзе скончыў жыццё самагубствам. Акадэмік А. Смоліч быў расстраляны ў 1938 годзе.

Падручнікі гэтых навукоўцаў былі забаронены на доўгія дзесяцігоддзі, замкнуты ў спецсховішчы, частка іх была знішчана.

І вось цяпер, напрыканцы 1997 года, падручнікі, выдадзеныя ў 20-я гады, з'явяцца ў вітрынах краязнаўчага музея Віцебска на часовай выставе "Апошнія паступленні музея".

Але ж галоўнае наперадзе. У свой час старшы навуковы супрацоўнік музея В.Шышанаў, працуючы ў Віцебскім абласным архіве, азнаёміўся з цікавай паперай — "Спісам маёмасці здраўнёўскай школы" (яна размяшчалася ў будынку былой сядзібы І.Я.Рэпіна). У ім быў пералік названых вышэй падручнікаў, па якіх займаліся здраўнёўскія дзеці. В.Шышанаў звярнуўся за дапамогай у аддзел абменна-рэзервовых фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і атрымаў аналагі падручнікаў, якія, прыйдзе той час, займуць свае месца ў пастаяннай экспазіцыі аднойленага музея-сядзібы "Здраўнёва" мастака І.Я.Рэпіна.

**Эла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

# АЙЧЫННЫЯ ПІРАТЫ І ГАЛІВУДСКІ "ТЫТАНІК"

Нарэшце дачакаліся айчынныя кінагурманы экраннай (гэта значыць няякаснай) відэакопіі карціны рэжысёра Джэймса Камерана "Тытанік". Прэм'ера самай дарагой стужкі ў гісторыі кінематографа, здымкі якой абышліся ў 200 мільёнаў долараў, адбылася ў ЗША напрыканцы снежня. І што цікава, амаль за 10 дзён пракату стужка акупіла палову каштарысу фільма. Дарэчы, па камп'ютэрных эфектах "Тытанік" пакінуў далёка ззаду славуты фільм Стывена Спілберга "Парк юрскага перыяду" — 550 сцэн пры дапамозе камп'ютэрнай графікі супраць 80! Джэймс Камеран працягвае ставіць рэкорды і далей: 165 дзён было адведзена на здымачны час, 1,5 мільёна долараў прадзюсеры выдаткавалі толькі на музычнае афармленне гэтага грандыёзнага эпічнага палатна. Між іншым, усё тыя ж кампаніі "XX стагоддзе — Фокс" і "Парамаунт" не менш славутаму Кевіну Костнеру адлічылі на славуты "Падводны свет" усяго 175 мільёнаў долараў.

Адным словам, 43-гадовы Камеран, які "нарадзіў" такія папулярныя стужкі, як "Бездань", "Тэрмінатар-2", "Сапраўдная мана", толькі пацвердзіў рэпутацыю рэжысёра, які " на дробязі не разменьваецца.

Сюжэт карціны добра вядомы. Але новыя лініі ў паводзінах персанажаў, пасажыраў суперлайнера-забойцы, трымаюць увагу гледачоў 3 гадзіны. Сярод 1678 пасажыраў "Тытаніка" арыгінальна пабудаваны дзве цэнтральныя ролі ў выкананні Леанарда Ды Капрыо і Кэйт Уінслет. Ён — мастак, пісаны прыгажун, а Яна —жонка вядомага багача. Але філадэльфійскай арыстакратцы ніхто не перашкаджае пакахаць мастака. Акрамя айсберга ў водах Паўночнай Атлантыкі, які ў ноч з 14 на 15 красавіка 1912 года "нарадзіў" страшэнную катастрофу. Хачу падкрэсліць, што экранізаваць легенду пра "Тытанік" кінамайстры свету намагаліся больш за дзесяць разоў. Аднак, на мой погляд, па мастацкіх задумах і тэхнічных магчымасцях стужка Камерана можа прэтэндаваць на поспех не меншы, чым фільмы пра Джэймса Бонда ці "Знесеныя ветрам". Чаго толькі каштуе 235-метровая копія судна, якая саступае арыгіналу ўсяго на 10 працэнтаў! А штучнае возера з 64 мільёнамі літраў вады і з падводнымі камерамі... Карацей, усіх пікантных падрабязнасцяў падчас стварэння карціны не маю намеру пералічваць, бо стужку цікава глядзець. Асабліва, калі ў хуткім часе і на мінскіх відэарынках "усплыве" сапраўдны відэаварыянт у колеры, адаптаваны для хатніх прагляду.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**



*Макет "Тытаніка" падчас здымак. Фота АП.*

# ДЫРЫЖЫРУЕ СЭР ПІТЭР МАКСВЕЛ ДЭВІС...

Сёння Дэвіс прызнаны вядучым англійскім кампазітарам. Аўтар шматлікіх твораў, ён здолеў дамагчыся раўнавагі, спалучыўшы яскравую тэатральнасць і складаную музычную мову сярэдневяковай містыкі і сучаснага аскетызму.

Сэр Пітэр, з'яўляючыся працаўнікам устойлівых музычных нормаў, быў амаль культавай постаццю, але з тае пары паступова стаў прадстаўніком гэтай нормы брытанскай музыкі.

Больш за 150 з напісаных кампазітарам твораў ужо былі выкананы, у тым ліку опера "Тавернер і Уваскрэшанне", балет "Саламея", Скрыпічны канцэрт і Канцэрт для трубы з аркестрам, чатыры сімфоніі, дзве камерныя оперы "Маяк" і "Страсці святога Магнуса", музыка для тэатра, оперы для дзяцей "Папялушка" і "Два скрыпачы".

Сэр Пітэр Максвел Дэвіс заснаваў фестываль "Агні Лондана" і быў ягоным артыстычным дырэктарам усе гады існавання фестывалю з 1967 па 1987. Ён стаў ля вытокаў фестывалю Святога Магнуса на Аркнейскіх астравах, быў ягоным артыстычным дырэктарам у 1977 — 1986, а потым прэзідэнтам. У 1988 годзе ён зрабіў вялікі тур па ЗША, выступіўшы ў дзесяці гарадах Амерыкі. Музыка Максвела Дэвіса занатаваная шматлікімі вядомымі фірмамі гуказапісу. Сэр Пітэр Максвел Дэвіс даў адзін канцэрт з Расійскім нацыянальным аркестрам у вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі, дзе дырыжыраваў сваімі творамі: Танцы Макдональда, Канцэрт для трубы з аркестрам, Сімфонія № 5, Вяселле ў Оркні на ўзыходзе сонца.

**Андрэй БЯРЭЗІН,**
**наш уласны карэспандэнт у Маскве.**
**Фота аўтара.**

# ЗНАХОДКА АРХЕОЛАГАЎ



*Фрагменты скарбу, знойдзенага ля вёскі Вежкі Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці.*

Унікальныя рэчы пашчасціла знайсці беларускім археолагам ля вёскі Вежкі Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Гэты скарб складаецца з бронзавых жаночых упрыгожанняў.

Навукоўцы Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі знайшлі каля дзесяці старажытных ювелірных вырабаў. Яны былі загорнуты ў анучу. "Упакоўка", праляжаўшы ў зямлі 13 стагоддзяў, спарахнела, але затое упрыгожанні выдатна захаваліся да нашых дзён. Сярод знойдзеных упрыгожанняў — два бранзалеты, шыйныя грыўны, скроневыя пярсцёнкі, фрагменты галаўнога вянца.

Скарб можна датаваць VII стагоддзем новай эры. Знаходка стала для беларускіх археолагаў сенсацыяй года.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**



*Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Юрый Каласоўскі. Усе раскопкі адбываліся пад ягоным кіраўніцтвам.*

# Аляксандра Васілеўна НІКАЛАЕВА

Беларускае харэаграфічнае мастацтва панесла цяжкую страту — 16 студзеня 1998 года на 92 годзе пайшла з жыцця выдатная балерына і педагог, народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксандра Васілеўна Нікалаева.

А.В.Нікалаева скончыла Ленінградскае харэаграфічнае вучылішча ў 1929 годзе. З 1934 па 1960 працавала ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР у якасці вядучай балерыны. Мастацтва А.В.Нікалаевай вызначалі яркі тэмперамент, псіхалагічная праўдзівасць, высокая тэхніка танца.

Яна была першай выканаўцай вядучых партый у беларускіх балетах, а таксама з поспехам увасабляла мастацкія вобразы класічных твораў. Сярод яе роляў — Зося ў балеце "Салавей" М.Крошнера, Надзейка ў "Князь-возеры" В.Залатарова, Адылія ў "Лебядзіным возеры" П.Чайкоўскага, Кітра ў "Дон Кіхоце" Л.Мінкуса і інш. Усе створаныя ёю вобразы вылучаюцца яркай нацыянальнай характэрнасцю, вялікай унутранай сілай і жаночай абаяльнасцю. А.В.Нікалаева была ўзнагароджана орденамі "Знак пашаны" і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Вяла актыўную педагагічную работу ў якасці мастацкага кіраўніка Беларускага харэаграфічнага вучылішча, потым — педагога, апошнія гады працавала балетмайстрам Мінскай народнай студыі класічнага танца.

У гэтыя дні мастацкая грамадскасць рэспублікі развітваецца з выдатнай балерынай. Яе творчасць — гэта яркая старонка ў беларускай культуры. Яе спадчына — гэта яе вучні і артысты, якія ніколі не забудуць урокі Майстра.

**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь А.Сасноўскі, першы намеснік міністра культуры У.Рылатка, народны артыст СССР М.Яроменка, народны артыст СССР В.Елізар'еў, народны артыст СССР В.Роўда, народны артыст СССР А.Саўчанка, народная артыстка Беларусі В.Гаявая, народны артыст Беларусі М.Дрынеўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь А.Анісімаў, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь В.Дудкевіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь С.Картэс, старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў А.Дудараў.**



# АРНОЛЬД, ПЕРАМОЖЦА НУДОТЫ

*Мінулы год вызначыўся надзвычай вялікай колькасцю самых разнастайных фэстаў ды імпрэз. У іх безлічы амаль згубілася тая, што на пачатку сезона адпачынкаў вызначалася здзіўляючым словазлучэннем "Мастацка-спартыўны фестываль" ды яшчэ дэвізам: "Лепш за горы можа быць толькі Горад!" Фестываль гэты быў агульнагарадскім, праводзіўся пад эгідай гарвыканкама ўжо ў шосты раз і сёлета стаўся часткай святкавання 930-годдзя Мінска. Гэта мне паведамілі ў гарадскім аддзеле па справах моладзі. Больш дакладныя звесткі параілі атрымаць у мастацкага кіраўніка фестывалю. Так я пазнаёміўся з адной з найбольш цікавых асобаў, каго сустракаў у жыцці, такім жа супярэчлівым і арыгінальным, як і його-нае імя — Арнольд Пятроў.*

*Высветлілася, што мастацка-спартыўныя фестывалі, "бацькам" якіх з'яўляецца спадар Пятроў, маюць ужо вельмі паважны ўзрост — больш за дваццаць гадоў. Да таго, як стаць агульнагарадской амаль афіцыйнай імпрэзай, яны праводзіліся ў граніцах аднаго вельмі сакрэтнага прадпрыемства — Навукова-даследчага інстытута сродкаў аўтаматызацыі. (Абрэвіятура "НДІСА" ў свой час нейкім жартаўніком была расшыфравана як "НДІ Савецкай Арміі".)*

— Нягледзячы на тое, што гэта быў самы закрыты інстытут у Беларусі, жыццё там "бруіла", — распавядае Арнольд Пятроў. — У нас былі "гумарыны" — на Першага красавіка, зразумела, — "Навагоднія агеньчыкі", турыстычныя злёты, фестывалі і ... уласны тэатр. Фестываль нарадзіўся як "гібрыд" папулярных у той час турзлётаў спартыўнага накірунку і Клуба Вясёлых і Знаходлівых. І не па ўзоры КВЗ, а "на злосць" КВЗ. Сам я ў свой час уваходзіў у першую зборную КВЗ Беларусі, каманда заняла другое агульнасаюзнае месца ў сезоне 67/68 гадоў. У Мінск прыязджалі Маслякоў і Жыльцова, першыя вядучыя тэлевізійнага КВЗ, і большай славы, чым КВЗ-шнік, тады не было, аура захаплення акружала кожнага ўладальніка прамакутнага значка з усмешлівымі мордачкамі. Але потым у гульнях КВЗ пачалі пераважаць загадзя адпрацаваныя "загатоўкі", зніклі сапраўдная імправізацыя і дасціпнасць. Насуперак гэтаму, нашы фестывалі былі — поўная разняволенасць і свабода творчасці для кожнага жадаючага. Ідэя была простая: на "ўікэнд" мы выязджалі за горад, у лесе ладзіўся палатачны гарадок, і два дні (а дакладней, двое сутак, бо і ноччу фестывальнае жыццё не перапынялася) на палянцы загадзя сфарміраваныя каманды змагаліся ў дасціпнасці, спрытнасці, выдумцы, мастацкіх і акцёрскіх здольнасцях. Фарміраваліся каманды па вытворчых прыкметах, а ўсе арганізацыйныя пытанні вырашаліся на дзіва проста: у пэўны час дырэктар збіраў усіх кіраўнікоў падраздзяленняў і цэхаў на спецыяльную нараду, а потым пісаўся загад аб фестывалі з указаннем "На кантроль Пятрову". Дырэктар, генерал-маёр Ю.Падрэзаў, вельмі любіў гэтую справу. Потым дырэктары мяняліся, але працэс прыпыніць было нельга. Інстытут быў — найбуйнейшы абаронны, і хадзіў жарт, што часам не ўсе ведалі дырэктара, але ўсе ведалі Пятрова.

*Цяпер, магчыма, у гэта цяжка паверыць, але часы камуністычнай дыктатуры, безальтэрнатыўных выбараў і аднагалосных галасаванняў на сходах у абарону якога-небудзь барацьбіта з імперыялізмам (кшталту Анжэлы Дэвіс) альбо ў асуджэнне ўнутраных здраднікаў (кшталту Аляксандра Салжаніцына і Андрэя Сахарава) — гэтыя часы вылучаліся сапраўднай грамадзянскай актыўнасцю. Адпрацаваўшы восем гадзін за мізэрную зарплату, людзі не мелі дазволу яшчэ падзарабляць, паправіць такім чынам матэрыяльнае становішча, затое мелі вольны час і аддавалі яго захапленням. Для Пятрова, інжынера, выпускніка факультэта радыёфізікі і электронікі БДУ, такім захапленнем стала ... рэжысура забаўляльных відовішчаў! Фестывалі, прыдуманыя ім, год ад году мацнелі (на апошні, па ліку — трынаццаты ці чатырнаццаты, ва ўрочышча Тумель пад Смалявічамі прыехала звыш трох тысяч чалавек, былі госці з Прыбалтыкі, з Масквы і Ленінграда). І неяк сама сабой з ліку найбольш захопленых гэтай справай людзей стварылася суполка — тэатр. Кіраўніком, зразумела, стаў той жа Пятроў.*

— Тэатр нарадзіўся ў 1977 годзе. Мы назвалі яго "Мінскі мастацка-эксперыментальны тэатр" (па-расійску абрэвіятура гучыць "МХЭТ" — амаль што "МХАТ"), бо ён не ўкладваўся ў існаваўшыя рамкі класіфікацыі. Калі пазней нам давалі званне "Народны", гэта нават стала праблемай — тэатр быццам бы і не драматычны, і не музычны. А мы ставілі мюзіклы! У той час мюзіклаў у краіне не было ўвогуле, нават на прафесійнай сцэне. Мы ж ставілі ў гэтым жанры і вядомыя п'есы — напрыклад, "Да трэціх пеўняў" Шукшына, і ўласныя, аўтарскія — такой была фантастычная камедыя "Адысея Яфіма Цішкіна". У нас быў свой кампазітар — Сяргей Наскоў, таксама інжынер з НДІСА, быў уласны ВІА, свая данс-група, уласнае — самаробнае, вядома ж — тэхнічнае абсталяванне, якое дазваляла весці спектаклі, скажу шчыра, на някепскім узроўні. З цягам часу мы сталі фактычна базавым тэатрам ЦК камсамола Беларусі. Мы "не вылазілі" з узорна-паказальнага рэспубліканскага цэнтра адпачынку "Юнацтва", што на Мінскім моры. Не дзіва таму, што, калі ў 1979 годзе ў Мінск прыехаў з гастролямі Тэатр на Таганцы і акцёры пажадалі паглядзець маладзёжны тэатр, — ім паказалі нас. Сустрэча ладзілася ў камсамольска-маладзёжным кафэ "Сузор'е", у невялічкай зале сядзелі славутыя ўжо тады Зінаіда Славіна, Барыс Хмяльніцкі, Валерый Залатухін і іншыя зоркі і даволі скептычна на нас паглядалі. Мы паказалі свой самы вясёлы спектакль, байку "Воўк і сямёра казлянятак". Што казаць, хваляваліся, стараліся — і нездарма. У фінале тая ж Славіна выскачыла на сцэну, каб далучыцца да нашых "данс-гёрлз". Таганкаўцы доўга не маглі зразумець, што мы — самадзейны, непрафесійны тэатр, што ўсе мы працуем інжынерамі, тэхнікамі. "І дзяўчаты — інжынеры?" — перапытвалі па некалькі разоў. "Рабіце тэатр!" — казалі яны нам. Вядома ж, што і сама Таганка пачалася са студыйнага курса, яны былі "падзвінутыя" на гэтым — нараджаць новыя тэатры. Але асабіста я не адчуваў патрэбы займацца тэатрам прафесійна, мне і асноўная мая праца вельмі падабалася. Я быў канструктарам, потым — галоўным канструктарам вырабу, мне гэта было цікава і за гэта я атрымліваў грошы. А што да мастацкай творчасці, маё славалюбства было задаволена тым, што ўсе навокал ведалі — гэта я прыдумаў і фестывалі, і тэатр. Мы рабілі гэта для сябе, каб было весялей, лепш, каб самім стаць лепшымі і цікавейшымі. А калі атрымоўвалася на добрым узроўні — дадатковая прыемнасць.

Потым абаронка "зажмурылася", але фестывалі, на маё здзіўленне, на памёрлі: камсамольцы з Першамайскага райкама некалькі гадоў ездзілі да нас "інкогніта" і потым прапанавалі перанесці фестывалі спачатку на раённы, потым — на гарадскі ўзровень. Цяпер ужо да нас прыязджаюць каманды і з Віцебскай вобласці, так што, можа, у хуткім часе мастацка-спартыўныя фестывалі стануць — агульнадзяржаўнымі? *(Смяецца — не цалкам шчыра.)*

*"Галоўны канструктар вырабу" (мы, напэўна, ужо не даведаемся, што гэта былі за "вырабы" ў нашай "абаронцы"), выпускнік тэатральнай студыі пры тэатры імя Я.Купалы, рэжысёр першай катэгорыі (тарыфіцыраваны Мінкультам "па сукупнасці"), аўтар і вядучы некалькіх забаўляльных праграм на беларускім тэлебачанні... Нехта бачыў яго кіраўніком таталізатара на "баях без правілаў" у начным рэстаране "Рандэву", другі — з гармонікам на вуліцах горада ў калядным карагодзе. Нешта ў ім ёсць нават і ад славутага галівудскага цёзкі, асілка Шварцэнегера. Не знешняе падабенства, вядома, а тое, што гэтак жа спрытна, як той перамагае шматлікіх экранных нягоднікаў і пачвар, "наш" Арнольд перамагае нудоту. А гэта — не мала.*

**Ігар КЛОКАЎ**



*У разгар "Мастацка-спартыўнага фестывалю". А.Пятроў у лагеры адной з каманд, "грузінаў".*

# ШАШАЧНАЕ КНЯСТВА Ў ЗВЫЧАЙНЫМ ЛІЦЭІ

Музей-кабінет беларускіх шашак быў заснаваны некалькі гадоў таму на базе школы-ліцэя № 16 г.Мінска. Незвычайны кабінет з экспазіцыяй быў створаны па ініцыятыве Анатоля Лявонавіча Стука — дырэктара школы-ліцэя, вядомага ў беларускай сталіцы настаўніка і арганізатара школьнай справы, што мае трыццацігадовы педагагічны стаж.

У музеі-кабінеце вы можаце даведацца пра гісторыю беларускіх шашак, пра вядомых беларускіх шашыстаў, пра перспектывы развіцця гэтай старажытнай гульні.

Кабінет наведваюць вучні ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў. Тут цікава.

Узначаліў арыгінальную справу і музей-кабінет Аркадзь Венядзіктавіч Ракітніцкі.

"Я нарадзіўся ў Мінску ў 1911 годзе, — расказвае вядомы шашыст, — на другой Сяргееўскай вуліцы. У нашым двары жыла стрыечная сястра Янкі Купалы Ізабэла Нарэйка са сваім сынам Міхасём. А першае маё знаёмства з шашкамі адбылося тады, калі да цёткі Ізабэлы прыходзіў Іван Дамінікавіч. Калі цётка Ізабэла недзе затрымлівалася, да Івана Дамінікавіча выходзіў мой бацька. Для мяне было самым цікавым, калі яны пасылалі ў кватэру за шашкамі і пачыналі гульню. Я цярпліва чакаў збітых шашак. Па заканчэнні партыі зноў вяртаў іх і дапамагаў расстаўляць шашкі на дошцы.

У нашай сям'і ведалі напамяць некалькі пазіцый, якія называлі задачамі. Так, калі я стаў іх добра запамінаць, бацька гаварыў, што іх не раз паказваў Івану Дамінікавічу".

Аркадзь Венядзіктавіч Ракітніцкі — чалавек з шырокай эрудыцыяй, веды якога пра гульню ў шашкі, жыццё, творчасць выдатных майстроў, дзеячаў культуры носяць энцыклапедычны характар.

На пачатку 30-х знакаміты майстра займаўся ў вячэрняй студыі Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра (потым імя Я.Купалы).

Біяграфія А.Ракітніцкага вельмі цікавая і яскравая: арыстакратычнае мінулае і жыццё на Украіне, навучанне ў Беларускім універсітэце і праца ліцэйшчыкам, камсамольскае жыццё і ўдзел у жудаснай Вялікай Айчыннай вайне. Пасля вайны А.Ракітніцкі — дырэктар Рэспубліканскага шахматна-шашачнага клуба і адначасова нязменны вядучы (на працягу 35 гадоў) перадачы "Белыя і чорныя".

Шмат цікавага даведаўся я пра гісторыю беларускіх шашак, наведаўшы кабінет-музей, што размясціўся ў школе №16.

Неверагодна, але дакладна вядома, што шашачная гульня існавала ўжо ў глыбокай старажытнасці. У Егіпце ў сяленні Сакары (каля 3000 гадоў да н.э.) у саркафагу Тэры былі знойдзены малюнкі, на якіх адлюстравана гульня ў шашкі. А ў грабніцы Рагожэна ў Медуме (каля 2800 гадоў да н.э.) знойдзена шашачная дошка.

Існуе легенда, што бог Таот, Гермес Егіпта, гуляючы ў шашкі з багіняй Месяца, выйграў у яе сямідзесятую долю кожнага дня года... З чаго і стварыў пяць дадатковых дзён у годзе.

Пазней шашачная гульня пранікла ў Грэцыю, Італію, Іспанію і іншыя краіны. У паэме Гамера "Адысея", як і ў многіх іншых старадаўніх творах, ёсць згадкі аб шашках.

Цікавы выпадак прыводзіць у сваім сачыненні рымскі філосаф Сенека (465 год н.э.) аб Юліі Канусе, прысуджаным да пакарання смерцю пры жорсткім імператары Калігуле. "Ён гуляў у шашкі, калі сотнік загадаў пасляшацца. Канус пералічыў шашкі і звярнуўся да свайго праціўніка: глядзі, пасля маёй смерці не схлусі, што ты перамог.

Затым кіўнуў галавой і сказаў сотніку: "Будзеш сведкам — у мяне адной шашкай больш. Ці мяркуеш ты, што Канус выйграў і ў гэтай партыі?"

Душэўны спакой Юлія Кануса прывёў Сенеку ў здзіўленне.

Але адзіных правілаў гульні ў той час не было, таму ў кожнай краіне яны трактаваліся па-рознаму.

Як і калі паявіліся шашкі ва Усходняй Еўропе — невядома. Аднак у пахаваннях III — IV стст. н.э. шкляныя шашкі былі знойдзены пры раскопках у ваколіцах горада Пераяслава-Хмяльніцкага на Кіеўшчыне.

Хоць ніякіх друкаваных вестак аб шашках на Беларусі ў мінулых стагоддзях не выяўлена, але гэта, відаць, тлумачыцца тым, што тады на Беларусі перыядычных выданняў было вельмі мала. Шашкі ў асноўным былі гульнёй рамеснікаў і дробных гандляроў, да іх ставіліся з пагардай. Вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, які захапляўся шашачнай гульнёй, у сваёй паэме "Шашкі" (1821—1823 гг.) пісаў:

*Хай так шашкі апяю я*
*І прасшўлю, уклаўшы душу,*
*Што любіць на белым свеце*
*Іх паўсюдна ўсіх прымушу.*

**(Пераклад А.Ракітніцкага.)**

І ўсё ж у канцы мінулага стагоддзя ў літаратурных дадатках да часопіса "Ніва", а затым і ў іншых выданнях паяўляюцца прозвішчы беларускіх аматараў, якія прымаюць удзел у рашэнні задач і эцюдаў: з Гродна — А.Міхельскі, Полацка — В.Чарняўскі, Маладзечна — М.Мажоўскі, Навагрудка — М.Фідлер, Бабруйска — Г.Ярхо.

У 1894 годзе ў дадатках да "Нівы" была апублікавана першая задача, складзеная беларускім аўтарам Антонам Міхельскім.

Цікавыя ўспаміны аб шашачнай гульні ў Віцебску пакінуў на пачатку 50-х гадоў бацька вядомага зараз майстра спорту па шашках і кандыдата філасофскіх навук Івана Сцяпанава — Андрэй Іванавіч Сцяпанаў: "Шашкі з пачатку нашага стагоддзя былі распаўсюджаны ў корчмах, друкарні, дзе я працаваў. Гулялі дваяка: калі "на цікавасць", то з запіраннем шашак, калі "на сілу", то проста, хто пераможа; шашкі, якія заставаліся на дошцы, лічылі "сухарамі". Я ж вучыўся гуляць у аднаго старога шашыста. За кожную запёртую шашку ён браў пяць капеек".

Успаміны... Успаміны...

Гаспадар шашачнага княства — чалавек красамоўны і таленавіты. Сапраўдны "шашачны мамант"...

А наогул тое, што вопыт гэтага вядомага чалавека спатрэбіўся менавіта школе-ліцэю № 16, — не выпадковасць. Чаму? Таму што школа-ліцэй № 16 лічыцца элітнай навучальнай установай яшчэ з дня заснавання. Таму, што 95 працэнтаў выпускнікоў трапляюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, таму, што тут працуюць таленавітыя самаадданыя і творчыя выкладчыкі: Жана Маркава, Ала Лойка, Лілія Бярковіч, Мінай Айбіндзераў, Хвёдар Ляхновіч, Таццяна Ладнюк...

Росквіту табе, шашачнае княства!!!

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ, студэнт V курса БДУ.**

# ПАД АПЯКУНСТВАМ СВЯТЫХ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ

***У 1993 годзе ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце быў адкрыты факультэт тэалогіі імя святых Кірылы і Мяфодзія. Ён здзяйсняе унікальны адукацыйны праект, забяспечваючы падрыхтоўку спецыялістаў у галіне багаслоўя і гісторыі рэлігій у сістэме свецкай вышэйшай адукацыі. Дэканам факультэта з'яўляецца мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Дзейнасць факультэта засноўваецца на прынцыпах галоснасці ў мэтах развіцця міжканфесійнага дыялога згодна з ідэяй хрысціянскага сацыяльнага служэння. Ва універсітэце выступаюць з лекцыямі сусветна вядомыя навукоўцы-багасловы і філосафы. Больш падрабязна пра факультэт распавядае намеснік дэкана — дыякан айцец Ігар (Ігар Андрыянаў).***

**— Айцец Ігар, якой была мэта стварэння факультэта тэалогіі як свецкай навучальнай установы?**

— У нашым грамадстве ўзнікла патрэба духоўнага асветніцтва. Адчыняюцца нядзельныя школкі, у агульнаадукацыйных школах уводзіцца такі прадмет, як рэлігіязнаўства, але не кожны святар у стане прафесійна выкладаць. Не сакрэт, што ў нас велізарная колькасць святароў была рукапакладзена без адукацыі. Вельмі складана знайсці агульную мову з дзецьмі (гэта асаблівы кантынгент), данесці да іх рэлігійныя ісціны, навучыць Закону Божаму. Нават мітрапаліт Антоній Суражскі, чалавек духоўнага жыцця, у адным са сваіх артыкулаў сказаў пра тое, што ён не можа размаўляць з дзецьмі пра Бога, бо сам не мае вопыту веры ў маленстве, прыйшоўшы да веры толькі ў 14 — 15 гадоў. Нашых дзяцей навучаюць цяпер чаму заўгодна: матэматыцы, фізіцы, нават этыцы сямейнага жыцця і сексуальных стасункаў, але зусім не даюць асноваў рэлігійных ведаў. У выніку чалавек становіцца не гарманічнай, а дэфармаванай асобай. Горш за тое, людзі, якія самастойна не могуць вырашыць свае праблемы, не маюць рэлігійных ведаў і правільнай духоўнай асновы ў жыцці, вельмі часта трапляюць у секты. Цяпер Царква не павінна абмяжоўвацца сваімі вузкімі, толькі богаслужбовымі рамкамі. Яна павінна шукаць агульную мову з інтэлігенцыяй, адукаванымі людзьмі, а для гэтага патрэбныя свецкія людзі, якія атрымалі багаслоўскую адукацыю. У рэшце рэшт, у Евангеллі сказана, што кожны чалавек прызначаны да святарства не ў сакраментальным, звыклым для нас сэнсе гэтага слова, а да святарства як місіянерства, настаўніцтва. Свецкія асобы павінны адыгрываць больш актыўную ролю ў Царкве. Але для гэтага трэба мець адукацыю. Ёсць жа вопыт, напрыклад, у каталіцкай царквы — там вялікая актыўнасць свецкіх асоб.

**— Ці ёсць падобныя навучальныя ўстановы ў Расіі?**

— Падобныя факультэты існуюць ужо ў Маскве, Санкт-Пецярбургу. Гэта свецкія навучальныя ўстановы. А святароў у нас рыхтуюць семінарыі і акадэміі. Адукаваныя свецкія людзі, якія вераць і пахрысціліся, хочуць атрымліваць сістэматычныя рэлігійныя веды не з брашурак. На Захадзе гэтая практыка вельмі распаўсюджаная, многія атрымліваюць духоўную адукацыю і выкладаюць у школах Закон Божы альбо этыку (паводле выбару навучэнцаў). Святары там выконваюць пастырскія абавязкі, здзяйсняюць агульнае кіраўніцтва дзейнасцю свецкіх людзей у сферы катэхізацыі. У нас ужо з'явіліся катэхізатарскія школы. Але, на жаль, яны не даюць дастатковага аб'ёму ведаў.

**— Якая сістэма навучання на факультэце, якім дысцыплінам надаецца асаблівая ўвага?**

— Набор прадметаў, якія вывучаюць нашы студэнты, прыблізна адпавядае вучэбнай праграме семінарый і акадэмій. Адрознасць у тым, што ў нас больш прадстаўленыя агульнагуманітарныя навукі. Студэнты даволі інтэнсіўна вывучаюць дзве замежныя мовы, што дазваляе ім слухаць лекцыі замежных выкладчыкаў; праходзяць пачатковы курс класічных і старажытных моваў: латынь, грэчаскую, старажытнагебрайскую, царкоўнаславянскую, вывучаюць псіхалогію, педагогіку, гісторыю не толькі царкоўную, але і свецкую, дастаткова сур'ёзна займаюцца філасофіяй. Гэта дазваляе ім знайсці агульную мову з нашай інтэлігенцыяй. Багаслоўскія прадметы прадстаўлены гэтаксама, як і ў духоўных навучальных установах, за выключэннем пастырскага багаслоўя, таму што мы не рыхтуем святароў. У нас толькі адна кваліфікацыя — тэолаг, выкладчык тэалогіі.

**— Вы рыхтуеце вельмі малую колькасць студэнтаў — 12 —13 чалавек на адным курсе. Чым гэта можна патлумачыць: элітарнасцю альбо недастатковым прэстыжам вашага факультэта?**

— Перадусім, гэта адсутнасць сродкаў. Нашы фундатары, дзякуючы якім існуе наш факультэт, могуць забяспечыць толькі 12 бясплатных месцаў. Сёлета мы прынялі 18 чалавек за кошт таго, што чацвёрты і пяты курсы крыху скараціліся. У будучыні мы спадзяемся пашырыць факультэт, бо жадаючых атрымаць багаслоўскую адукацыю хапае. Мы гатовыя адкрыць завочнае і вячэрняе аддзяленні, але на гэта пакуль не хапае сродкаў і памяшканняў.

**— Распавядзіце пра культурныя мерапрыемствы на факультэце.**

— Мы не толькі імкнемся, каб нашы студэнты слухалі лекцыі і наведвалі семінары, але і наладжваем канферэнцыі, выставы, "круглыя сталы", на якіх прысутнічаюць замежныя выкладчыкі. Дарэчы, яны адзначаюць высокі ўзровень ведаў у нашых студэнтаў. Штогод у нас праводзяцца Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні, дзе студэнты выносяць на суд слухачоў свае навуковыя даследаванні. Некаторыя творы былі апублікаваны ў "Епархіяльных ведамасцях". Але галоўнае, што кожны тыдзень мы здзяйсняем Боскую Літургію ў нас на факультэце, з удзелам студэнцкага хору наладжваліся набажэнствы ў Кафедральным саборы ў Мінску. А наогул мы марым, каб у нас быў свой невялікі студэнцкі храм, дзе б святары займаліся духоўным апекаваннем моладзі.




**— Сёлета ў вас будзе першы выпуск студэнтаў. Ці можаце вы гарантаваць іхняе працаўладкаванне?**

— Нашы студэнты ўжо некалькі гадоў запар праходзяць практыку ў розных навучальных установах. Яны маюць поспех у школах, дзе праводзяць факультатыўныя заняткі па сваёй спецыяльнасці. Я мяркую, што праблем з працаўладкаваннем у іх не ўзнікне, але для гэтага, перадусім, неабходна прыкласці высілкі, каб у школах дазволілі выкладаць прадмет, звязаны з вывучэннем рэлігіі, не толькі з пазіцый атэістычнага светаўспрымання, але і з пазіцый рэлігій, традыцыйных для Беларусі.

**— Ці магчымая для вашых выпускнікоў далейшая арганізаваная навуковая дзейнасць?**

— Мы будзем спрабаваць арганізаваць штосьці накшталт аспірантуры. Для гэтага трэба прызнаць спецыяльнасць "Багаслоўе" як навуковую, бо пакуль што гэтая спецыяльнасць прызнаная толькі ў якасці навучальнай. У ВНУ ўведзена дысцыпліна "Рэлігіязнаўства", і нашы выпускнікі могуць спецыялізавацца як рэлігіязнаўцы, бо гэтая вучэбная дысцыпліна выкладаецца з пазіцый атэізму (хаця і такое выкладанне нельга цалкам адмаўляць).

Наш факультэт адраджае страчаныя традыцыі хрысціянскага асветніцтва. Вера, што складаецца з ведаў, волі і пачуцця, будзе заганнай, калі знішчыць які-небудзь з гэтых трох складнікаў. Гэта можа быць шчырая, жывая вера, але заганнасць яе ў тым, што яна не можа перадавацца іншым. Менавіта веры, падмацаванай ведамі, вучылі святыя айцы — Васіль Вялікі, Іаан Залатавуст, Кірыла Александрыйскі. Менавіта веру, падмацаваную ведамі, наш факультэт імкнецца перадаць студэнтам. У гэтым — яго-нае прызначэнне.

**Гутарку вяла**
**Марына БАХАРАВА**



# ЭКРАН І ГРАМАДСТВА

Аўдыёвізуальная культура, хоць яе нараджэнне было афіцыйна зафіксавана ў XX стагоддзі, мае глыбокія гістарычныя карані. У супрацьлегласць аскетычнай і схаластычнай культуры сярэдніх вякоў эпоха Адраджэння дэкларавала першаснасць візуальнага, канкрэтна-пачуццёвага пачатку, які непасрэдна адлюстроўвае эстэтычнае багацце свету, плоць рэчаў, плоць чалавечага цела. Калі культура сярэдніх вякоў — гэта, перадусім, культура слова, культура мовы — пісьмовай ці вуснай, дык Рэнесанс — культура мастацкіх вобразаў. У трактаце "Спрэчка жывапісца з паэтам, музыкантам і скульптарам" знакамітага Леанарда да Вінчы прыведзена паданне пра нейкага цара, які мусіў быў развітацца са сваёй каханай. Яго спыталі, ці жадаў бы ён, каб яе вобраз быў увасоблены паэтам у прыгожых вершах або мастаком у добрым партрэце. Цар выбраў партрэт.

Для Леанарда гэтае паданне служыла доказам эстэтычнай вышэйшасці жывапісу ў параўнанні з іншымі відамі мастацтва. Менавіта з эпохі Адраджэння пашыраецца працэс візуалізацыі культуры, які дасягае сваіх вышынь у XX стагоддзі дзякуючы кіно і тэлебачанню.

Візуалізацыю культуры я разглядаю як працэс узрастання аб'ему і ролі відэаавобразаў у агульнай культурніцкай плыні. Менавіта гэты працэс складае сутнасць аўдыёвізуальнай (экраннай) культуры, якая фармуецца літаральна перад нашымі вачыма.

Сваю назву — экранны — гэты перыяд культуры атрымаў таму, што асноўным матэрыяльным носьбітам тэкстаў у ім з'яўляецца не пісьмовасць, а "экраннасць". Гэтая культура заснавана не на лінейным, выцягнутым у радок пісьме, а на сістэме экранных (плоскасных) выяваў. Традыцыйная пісьмовая мова замяняецца часавай плынню экранных вобразаў, у якой свабодна змяшчаюцца дзеянні і вусная мова герояў, анімацыйнае мадэляванне, звычайныя пісьмовыя тэксты.

Калі мы бярэм у рукі кнігу (мастацкую, навуковую ці яшчэ якую-небудзь іншую), дык бачым, што, аб чым бы яна нам ні распавядала, аповед выцягваецца ў кніжны радок, бо ён заснаваны на "лінейнай мове" пісьмовасці. Аднак з'яўленне на кніжнай старонцы ілюстрацый надае ўжо іншую якасць і гэтай старонцы, і кнізе ўвогуле. Тут ужо пісьмо спалучаецца з "плоскаснай" мовай жывапісу, эвалюцыя якой прывяла на пачатку XX стагоддзя да нараджэння кінематографа. Гэты апошні здолеў перадаць рэальную паслядоўнасць руху ў замкнёнай прасторы экрана.

Са з'яўленнем тэлебачання экран прыйшоў да нас у кватэру і стаўся такім жа звыклым і неабходным прадметам хатняй культуры, як кніга. Нарэшце, відэамагнітафон даў магчымасць зваротнай сувязі з экранам. Відэакасета — гэта, па сутнасці, такое ж захаванне фрагмента сусветнай культуры ў "памяці" кватэры, што і кніга.

Экранная культура яшчэ складваецца, але ўжо цяпер вылучаецца шэрагам пазітыўных асаблівасцяў. Калі звычайны тэкст, характэрны для пісьмовай культуры, трывала, цвёрда зафіксаваны (што напісана пяром, не высечаш сякерай), дык тэкст на экране камп'ютэра (як на лінейнай, так і на вобразнай мове) — мяккі, ён штосекунды гатовы да бязмежнай трансфармацыі. Дысплей сучаснай ЭВМ стаўся крыніцай графічных выяваў, якія былі немагчымыя ў мінулым, і гэта плённа выкарыстоўваецца ў развітых краінах у галіне сярэдняй і вышэйшай адукацыі.

Здольнасць камп'ютэрнай "старонкі" да бязмежнай зменлівасці свайго зместу, і перш за ўсё — графічнага, вызначае шэраг мастацкіх параметраў аўдыёвізуальнай культуры. Зазначу тут толькі адзін. Для феноменаў экраннай культуры будзе характэрная іншая паэтыка: не апавяданне, на якім трымаецца практычна ўся пісьмовая культура, а дыялог, які пераходзіць у глабальны палілог. Гэтаму вучыць "Граматалогія" сучаснага французскага філосафа Ж.Дэрыда. Па яго меркаванні, форма мыслення сучаснага чалавека ўваходзіць у супярэчнасць з формай пісьма: нягледзячы на тое, што думка заўсёды рухаецца нелінейна, яна фіксуецца ў лінейным тэксце. "Тэксты" самога Дэрыда — гэта шэраг не маючых знешняй сувязі ўрыўкаў альбо размяшчэнне на плоскасці старонкі двух ці больш тэкстаў паралельна. Усе намаганні Дэрыда накіраваны да таго, каб вырвацца за межы лінейнага тэксту, за рамкі плоскасці паперовага аркуша ў шматмерную прастору, у "тэкст без межаў".

Той жа прынцып бязмежнай трансфармацыі ляжыць і ў аснове камп'ютэрных гульняў, асабліва выразна — у тых, якія датычаць феномена "штучнай рэчаіснасці" — сітуацыі, у якой чалавеку неабходна зрабіць выбар з некалькіх віртуальных светаў, у якіх будзе развівацца далей дзеянне. Любая цікавая кніга пра цудоўныя прыгоды, падарожжы і вандраванні будзе адрознівацца ад аналагічнай камп'ютэрнай гульні перш за ўсё тым, што ў кнізе аўтар ужо выбраў адзін з агромністай колькасці магчымых паваротаў дзеі і ўсё вырашыў сам раз і назаўсёды; стваральнікі ж сучасных камп'ютэрных гульняў (а таксама інтэрактыўных фільмаў) пакідаюць гэтую прэрагатыву за кожным з нас.

Амаль ва ўсіх новых гульнях канец адсунуты вельмі далёка: з развіццём дзеяння мы можам выбраць безліч усялякіх варыянтаў, лягчэйшы ці больш складаны, і кожны з іх, у сваю чаргу, падзяляецца на свае варыянты.

Рэпрадукаванне феноменаў экраннай культуры, па-першае, дае магчымасць далучыцца да набыткаў сусветнай культуры мільённай аўдыторыі, стымулюючы яе духоўнае развіццё. Па-другое, яно спарадзіла адну з найважнейшых тэндэнцый развіцця сучаснай культуры — індывідуальныя, асабістыя зносіны гледачоў з мастацкімі творамі. Масавае захапленне калекцыянаваннем, якое ўзнікла ў 70-я гады, адлюстроўвае развіццё гэтай тэндэнцыі — імкненне зрабіць спецыяльны міні-музей у сябе дома.

Разважаючы аб рэпрадукцыях твораў мастацтва, неабходна мець на ўвазе, што размова ідзе не толькі і не столькі аб фотаздымках ці копіях знакамітых твораў, колькі аб карцінках, якія знаходзяцца ў памяці камп'ютэра. Сёння з'явіліся новыя формы прылучэння людзей да шэдэўраў сусветнай культуры: каляровыя выявы карцін, што запісаны ў памяці ЭВМ; камп'ютэрныя сеткі, якія злучаюць найбуйнейшыя музеі свету і праз якія можна абменьвацца "калекцыямі" карцін; электронныя каталогі помнікаў мастацтва і іншыя. Новыя формы запісу, захавання і перадачы мастацкай інфармацыі служаць дэмакратызацыі спажывання культурных каштоўнасцяў.

Уяўляецца, што галоўным вынікам гэтых інавацый у перспектыве стане фармаванне новай культурнай прасторы, арганізаванай хутчэй "па гарызанталі", чым "па вертыкалі". У масавай свядомасці ўжо цяпер фармуецца дастаткова выразнае ўяўленне аб тым, што мастацтва не ёсць штосьці высокае і далёкае, звязанае толькі з гістарычнымі цэнтрамі сусветнай культуры, але гэта яшчэ і тое, што закладзена ў самім чалавеку і атачае яго. Пашыраецца разуменне таго, што значныя падзеі агульнакультурнага працэсу павінны адбывацца дома і ўсюды, а не толькі ў сталіцах і музеях-запаведніках. Сацыяльная дыстанцыя паміж творцай і спажыўцом мастацтва, паміж суб'ектам і аб'ектам культурнатворчага працэсу скарачаецца літаральна штогод.

**Ірына СІДОРСКАЯ**

№ 3 24 — 30 студзеня 1998.



# З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, УЛАДЗІМІР СЯМЁНАВІЧ!

Уладзіміру Высоцкаму — шэсцьдзесят. Было б. А пражыў ён усяго сорак два з паловай, аддаўшы гэтыя гады краіне, дзе жыў і якую любіў па-вар'яцку і горка. І часцінка гэтага жыцця — Беларусь, дзе здымаўся, спяваў, ствараў, адлачываў, уздымаў пыл на Брэсцкай шашы, накіроўваючыся ў Парыж і назад...

Так, 18 гадоў яго няма з намі. Аднак я не маю рацыі. Ён — з намі. Як і раней. І гэта неразгаданы феномен: жыццё пасля жыцця...

Узгадаў радкі:

*"Когда человек умирает,*
*изменяются его портреты...*
*...Я заметила это,*
*вернувшись*
*С похорон одного поэта.*
*И с тех пор я проверяла часто.*
*И моя догадка подтвердилась."*

Гэта Ганна Ахматава напісала пра іншага паэта. І — пра ўсіх паэтаў. Дзіўна, як мала фатаграфій, на якіх Уладзімір Сямёнавіч смяяўся б. На большасці — позірк ва ўпор, вочы ў вочы, жорсткі рот, трагічны злом броваў. Глядзіш — і чуеш ягоны несціхаючы крык як прадвесце бяды...

Некалькі дзён таму ў мінскім Палацы мастацтва адбыўся вернісаж выставы жывапісу вядомага кінарэжысёра, аўтара кінафільма "Месца сустрэчы змяніць нельга" Станіслава Гаварухіна. Прыехаў і сам рэжысёр. Натуральна, я ведаў пра ягонае шматгадовае сяброўства з Высоцкім. А як ён з ім пазнаёміўся?

"Спачатку я пачуў запіс, — гаворыць Станіслаў Сяргеевіч. — Хто ён? Адкуль? Мяркуючы па песнях, ваяваў, шмат бачыў, пражыў цяжкае жыццё. Магутны голас, магутны тэмперамент. Уяўляўся вялікі, моцны, сталы... І вось першае знаёмства. Расчараванне. Хударлявы, спартыўны, усмешлівы маскоўскі хлопчык. Няўжо ён той, той самы?!.. Уяўленне малявала вялізнага, моцнага чалавека — яшчэ б, усю Расію ўзняў на дыбы! І раптам — невялікага росту, абсалютна пазбаўлены саноўнай важнасці. Яшчэ і картавіць...

Жывы Высоцкі аказаўся нашмат цікавейшы за ідала, якога я сабе ўявіў. Запіс захоўвае голас, інтанацыю, сэнс песні. Але як шмат дадаюць да гэтага жывая міміка таленавітага акцёра, ягоныя выразныя вочы, жыла на шыі, што ўспухла ад напружання.

Высоцкі ніколі не выконваў свае песні напаўсілы. Заўсёды, паўсюль — ці то на канцэрце, ці то дома перад сябрамі, ці то ў палатцы на ледніку, ці перад перапоўненай залай альбо перад адным, адзіным слухачом — ён спяваў і іграў, выкладваючыся напоўню, ушчэнт, да поту.

Якое незвычайнае шчасце было сябраваць з ім... Мне пашчасціла, як



нямногім. Шчаслівая зорка звяла мяне з ім на першай жа карціне. Было яшчэ некалькі фільмаў, яшчэ больш — задум. І паміж імі — гэта самае незабыўнае — шчыльныя стасункі проста так, без усялякай нагоды..."



Аднак —

*"Мы успели:*
*в гости к Богу не бывает*
*опозданий..."*

А вось мы не паспелі. Таму што ён аддаў нам сябе цалкам. Але мы нічога не зрабілі для яго. Толькі бралі. Ягонае імя абрасло, нібыта ракушкамі, легендамі, плёткамі, вымысламі, зайздрасцю, маной.

Божа ж мой, а колькі пасля ягонай смерці з'явілася ў яго сяброў, якіх Высоцкі пры жыцці і не бачыў! Вось зусім нядаўна на канцэртнай афішы майго знаёмага барда ўбачыў словы: "сябар Высоцкага", хаця дакладна ведаю — ён з ім ніколі не сустракаўся...

Не люблю гэтых, на эстрадах і ў кампаніях, з жартамі і "мемуарамі": "Вось, як цяпер памятаю, мы з Валодзькам..."

Узгадаў незабыўнага Віктара Турава. Незадоўга да сваёй смерці ён мне распавёў — упершыню за шаснаццаць гадоў! — гісторыю свайго няпростага творчага і чалавечага сяброўства з Высоцкім. А колькі ж гадоў маўчаў: "Як толькі Валодзя памёр, з усіх кутоў павыпаўзалі на свет боскі цэлыя натоўпы ягоных "прыхільнікаў", а прасцей кажучы, фальшывых сяброў. Вось тады я даў сабе клятву нічога не казаць у друку пра майго сябра на працягу пяці гадоў..."

Аказалася, больш. Але потым, мабыць, адчуў Віктар: калі не паспее распавесці, усё адыдзе ў нябыт. І — распавёў. Паспеў матэрыял завізаваць і незадоўга да смерці прачытаць



"Где твои семнадцать лет? — На Большом Каретном..."



першыя тры нумары за 1996 год газеты "Культура" (з дзесяці!) нашага з ім дыялога...

Карацей, тыя, хто ведаў Высоцкага блізка, хто яго любіў, з кім ён сапраўды сябраваў, кажуць пра яго так мала, так асцярожна, — як здымаюць з незагоенай раны прысохлыя бінты. Аднак Высоцкі сам смяяўся над няўрымслівымі ідалапрыхільнікамі:

*"Терпенье, психопаты и*
*кликуши!"*

...Святым — не быў. Прадаваць твар у цягніках і на могілках — блюзнерства. Ён не памёр — згарэў. Дык навошта чалавечыя натоўпы дасюль на могілках?

Раней, бываючы ў Маскве, я заўсёды прыходзіў на Ваганькава, набываў побач, на рынку, кветкі і накіроўваўся — адразу направа ад увахода. Іншы раз прыводзіў сяброў-мастакоў: Лёню Шчамялёва, Толю Анікейчыка, Сашу Кішчанку, Свету Гарбунову...

Але тут бывалі і іншыя. Іх шмат... Хтосьці здымаўся на фоне помніка. Хтосьці вывальваўся з аўтобуса — пабачыць, "адзначыцца". Хтосьці гучна, расчаравана: "І не падобны зусім!". Здалёк моўчкі, іранічна, з усмешачкай глядзелі "гаспадары" могілак у ватоўках. І безліч "сяброў" Высоцкага, выпіўшы, распавядаюць пра "сустрэчы з Валодзькам". Тут жа прадаўцы фатаграфій — прапаноўваюць "тавар", азіраючыся, нібыта зладзеі... Даўно я там не быў, можа, штосьці ўжо і змянілася? Толькі наўрад ці...

Безумоўна, сустракаліся тут і іншыя, якія яго сардэчна любілі. Памятаю, адна жанчына сказала: "Ён народны паэт і народны артыст. Божа, навошта яго на помніку па руках звязалі? Няхай хаця б пасля смерці вызвалілі. Прабачце, цяжка гаварыць, слёзы душаць..."

Высоцкі прадбачыў:

*"Кто кончил жизнь*
*трагически,*
*тот истинный поэт..."*

Ведаць свой лёс — таксама лёс. Цяпер пра тое, чаго ён не прадбачыў. Ён зрабіўся (пасмяротна, безумоўна) лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі. Даўно знятыя "з паліц" фільмы з удзелам Высоцкага — "Інтэрвенцыя" і "Кароткія сустрэчы". Круцяць цяпер па тэлевізары і самыя першыя ягоныя карціны. Мільёнамі экземпляраў выдаюцца ягоныя кнігі.

Існуе Дзяржаўны культурны цэнтр-музей ягонага імя, які ўзначальваюць Мікіта Высоцкі і ягоны намеснік Андрэй Крылоў. А кружэлкі з песнямі вялікага барда разышліся па ўсім свеце, апярэдзіўшы ўсіх "зорак" — модных і часовых. То там, то тут адкрываюцца выставы, прысвечаныя Высоцкаму, мемарыяльныя дошкі, помнікі.

Але, чорт яго бяры, чаму для гэтага трэба было памерці?

Уяўляю: раптам вось цяпер, на свой 60-гадовы юбілей з'явіўся б Уладзімір Сямёнавіч, у сваім нязменным світэры, з гітарай на



рамяні. Выйшаў бы да мікрафона і пачаў спяваць... Пра ўсіх нас, пра тыя падзеі, сведкамі якіх мы былі ўжо без яго. І даў бы зразумець, хто што думае пра ўсе гэтыя гады перабудовы і пераробкі шостай часткі зямлі і проста пра ўсе нашыя руцінныя справы.

Што думае пра гэта рабочы, шафёр, валацуга, пісьменнік, спартсмен, салдат, шахцёр, што — зняволены, а што — прэзідэнт або прэм'ер. І адразу будзе бачна, хто "за" і чаму, а хто яўна — "супраць". Хто паранейшаму настальгічна ўзгадвае мінулае, хто змагаецца за будучыню, хто моцна трымаецца за сваё крэсла, а ўсё астатняе яго не цікавіць. І раптам стане зразумелым, што дэмагогаў не паменела, і ханжаства таксама хапае, як і подласці, здрады, маны, маразму.

Але ўсё гэта, упэўнены, усё-такі перамогуць святло, хай сабе і далёкай зоркі, здаровы сэнс, надзея і прыстойнасць. Добра, што ў нас быў Высоцкі. Але яго нам сёння так нестае...

З Днём нараджэння Вас, дарагі Уладзімір Сямёнавіч!

**Барыс КРЭПАК**

# ШПАЦЫР ПА БРЭМЕНСКАЙ ТУРМЕ

## Інтэрв'ю з каментарыямі

**ЯК Я ПРАБІВАЎСЯ Ў НЯМЕЦКУЮ "ЗОНУ"**

Мы прыйшлі ў турму самі. Мы — мая добраахвотная перакладчыца, зямлячка з Украіны Рэгіна Эрліх і я. На падыходах да цікавага ў сэнсе архітэктуры комплексу будынкаў з чырвонай цэглы, у алеі нас сустрэлі і праводзілі да прахадной дзіўныя скульптуры.

На варце (алюміній, шкло, абсталяванне для перамоваў) з намі надзвычай ветліва паразмаўлялі два вартаўнікі — белыя кашулі, цёмныя гальштукі і ніякіх аўтаматаў.

— Журналіст з Беларусі жадае пабачыць начальніка турмы, каб дамовіцца пра інтэрв'ю.

І тут мы даведваемся, што начальнік турмы называецца кіраўніком і што ён — гэта яна, фрау Каліш... Нам далі нумар тэлефона яе прыёмнай і, з прычыны таго, што самой фрау тут пакуль няма, параілі патэлефанаваць і вырашыць нашу праблему. (Нашы "рускія пытанні" тут клічуць "праблемамі".)

Мы вярталіся дадому ўсё па той жа звышзялёнай алеі, і зноў на нас "глядзелі" незразумелыя скульптуры. Таямніца гэтых "ідалаў" раскрыецца пазней.

Рэгіна патэлефанавала на наступны дзень — сакратарка кіраўніцы турмы паабяцала патэлефанаваць і... патэлефанавала: "Вы можаце абраць любы час з 9 да 12 у аўторак альбо чацвер на наступным тыдні". Мы абралі чацвер і без чвэрці дзесяць былі ля знаёмай прахадной Брэменскай турмы, што з вуліцы нагадвала мне былы санаторый ЦК КПБ на возеры Нарач — "Сосны".

Нас правялі ў кабінет, які быў мала падобны да кабінета ў турме. Я сядзеў і чакаў: зараз прыйдзе старая, худая карга ў акулярах, у чорным гарнітуры, са слыхавым апаратам у левым вуху... Зайшла. Усё так, як я сабе ўяўляў, толькі — наадварот.

Гэтая жанчына, якая займае пасаду нашага міліцэйскага палкоўніка, была маладая, прыгожая, вельмі ветлівая і, аказалася, — загадвала не толькі "дадзенай" установай, але і ўсімі турмамі зямлі Брэмен. Яна ўсміхалася, жартавала і імкнулася задаволіць нашае жаданне распавесці "вайсруландскаму" чытачу пра тое, як "сядзяць" нямецкія злачынцы. Падчас усёй гутаркі ў яе быў зацікаўлены выраз твару. "Каву?" — папыталася фрау Каліш з першай хвіліны. "Дзякуй. Я ніколі яшчэ не піў каву ў нямецкай турме".

Гаспадыня кабінета пацікавілася, ці не будзем мы супраць таго, каб пры нашай размове прысутнічаў дарадца сенатара, які адказвае за праблемы юстыцыі: даведаўшыся пра нашую сустрэчу, дарадца выказаў жаданне... Чаму мы павінны быць супраць? Безумоўна, безумоўна. Дзе ж гэты дарадца? Хутка прыйдзе. Пачнем працаваць? Пачнем.

**СТО ГАДОЎ ГІСТОРЫІ, альбо ТУРМА З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ**

Фрау Каліш міжволі адгадала маё першае пытанне: "Якая гісторыя гэтай турмы? Што было ў гэтым будынку раней?" Я не паспеў яго вымавіць. Яна дастала са сценнай шафы каляровы планшэт, і мы ўбачылі Брэменскую турму з вышыні птушынага палёту. І пачулі яе гісторыю.

Будынак, які нагадваў мне замак (і санаторый), быў пабудаваны ў 1824 годзе спецыяльна для турмы. Спачатку тут было сто зняволеных-мужчын і сорак жанчын. Камеры, у адрозненне ад рэдкіх цяпер двухмесных, былі толькі адзіночныя. Праз дзесяць гадоў падоўжылі абодва корпусы і пачалі "прымаць" 400 чалавек. Парадкі ў турме напярэдадні 1900 года былі зусім дэмакратычнымі, калі не лічыць узаконенымі фізічнае пакаранне і цёмны карцэр. Потым прыйшоў кіраўнік, былы вайсковец, і ўвёў "аракчэеўшчыну" і для зняволеных, і для персаналу. За найдрабнейшае парушэнне — карцэр, хлеб ды вада. У 1911 годзе быў узведзены будынак папярэдняга зняволення.

Калі пачалася першая сусветная вайна, шмат хто са зняволеных пажадаў узяць у ёй удзел. (Тут я ўзгадаў "рускія" штрафныя батальёны, — "крывёю змыем віну перад радзімай!", патрыятызм нашых крымінальных злачынцаў... Няўжо "масавасць" паўсюль аднолькавая: тупая, страшная і некіруемая...)

У 1919 годзе адбылося неверагоднае (у немцаў такога "не павінна" здарацца): у турме было сто "залішніх" зняволеных... Звыш нормы! І гэта моцна запомнілася і — болей не паўтаралася. Праз пяць гадоў было забаронена фізічнае пакаранне і грубасці ў дачыненні да зняволеных і іхніх сваякоў. У гады фашызму было, як у гады фашызму... У 1945 — амерыканцы (Брэмен быў у іхняй зоне) турмой прызначылі


Фрау Каліш — кіраўнік усіх турмаў вольнага горада.

кіраваць таго чалавека, якога звольнілі з працы нацысты.

Ужо праз тры гады пасля вайны было пабудавана аддзяленне для моладзі. (Вось калі яны зразумелі, што сумеснае "сядзенне" "бацькоў і дзяцей" — гэта крымінальныя "універсітэты".) А гадоў дзесяць таму, калі змянілася кіраўніцтва, узаконілі адчыненыя камеры ў вольны час, але, галоўнае, адмянілі карцэр у тым выглядзе, у якім ён у іх існаваў (а ў нас існуе і цяпер).

Галоўны будынак — гэта два паралельныя корпусы, звязаныя дзвюма вежамі. Гэта яны "вінаватыя" ў тым, што турма падобная да замка. Тут адбывае свой тэрмін асноўная маса зняволеных. Ёсць зона адкрытая і закрытая. Першая — гэта шэсць жылых дамоў побач з турмой, дзе жывуць зняволеныя, якія адседзелі дзве трэція часткі свайго тэрміну. Яны працуюць у горадзе, але да адбою абавязаныя з'яўляцца ў сваю кватэру. Аховы тут няма. Задача выхавацеляў і псіхолагаў (у немцаў гэта вельмі сур'ёзная прафесія) у гэты апошні перыяд — падрыхтаваць зняволеных да нармальнага жыцця ў грамадстве. Апошнія шаснаццаць месяцаў усе зняволеныя, зазвычай, праходзяць праз адкрытую зону.

— А тут знаходзіцца царква, тут — школа...

Прыйшоў дарадца "праўвага" сенатара і... аказалася, што гэта — жанчына. Таксама маладая і сімпатычная, фрау Лутцэбек. Яна юрыст, мае трох сыноў, муж — бургамістр аднаго з раёнаў Брэмена. Да працы ў сенаце фрау Лутцэбек была адвакатам. Высветлілася, што яна "вядзе" яшчэ і прэсу горада. Адначасова я атрымаў запрашэнне ў прэсклуб пры сенаце.

З'явіўся чацвёрты кубак для кавы. Гутарка працягваецца. Цяпер на пытанні адказваюць дзве фрау. Хочацца падкрэсліць, што сваю частку працы яны робяць вельмі старанна, імкнучыся палегчыць нам нашую. (Усё ж праца з перакладам — справа няўдзячная і для самога перакладчыка, і для "высокіх бакоў", якія вядуць перамовы.)

Мы даведаліся, што для зняволеных ёсць бібліятэка, спартыўная зала, стадыён... Фрау Каліш шкадуе, што ў "яе" турме няма басейна, які будзе ў новай турме, што будуецца ў суседнім "ландзе" — у Ніжняй Саксоніі. "Колькі будзе каштаваць будаўніцтва?" — "Сем мільёнаў марак". — "Тады, безумоўна, можна і басейн", — пагаджаюся я. Пасмяяліся і налілі каву.

У турме ёсць друкарня, безумоўна ж кухня, шпіталь і асобны будынак — мастацкія майстэрні. "Адзіныя ва ўсёй Германіі", — з задавальненнем паведамляе фрау Каліш. А фрау Літцэбек дадае: "Гэта рэалізацыя ініцыятывы Брэменскага універсітэта і рашэнне Брэменскага сената". (Дарагія мае беларускія, рускія і ўкраінскія чытачы і, наогул, усе, хто гэта прачытае: ці вы чулі калі-небудзь ад каго-небудзь, каб хоць адзін з нашых універсітэтаў, няхай сабе ўскосна, няхай тэарэтычна, меў дачыненне хаця б да адной турмы ці зоны?.. Нам было ад чаго вар'яцець, яшчэ не выходзячы з гэтага кабінета.)

— Ці зможам мы паглядзець гэтыя майстэрні?

— Безумоўна.

**ВОСЕМ КВАДРАТНЫХ МЕТРАЎ СВАБОДЫ**

**— Колькі зняволеных адбываюць цяпер пакаранне ў гэтай турме?**

— Пяцьсот. А ўсяго ў сямі брэменскіх аддзяленнях — 750.

*(Калі я ад'язджаў з Мінска, у Беларусі "сядзелі" 54 тысячы чалавек. Гэта азначала: 5 злачынцаў на тысячу насельніцтва. Тут на тую ж тысячу — адзін злачынца. Але ж у нас да таго ж не садзяць у турму за шматразовы безбілетны праезд на трамваі. І за адсутнасць пашпарта, і за грашовы штраф, які чалавек не ў стане заплаціць...)*

**— А калі злачынцаў будзе больш за 750?**

— За сто гадоў гэта было аднойчы. Больш не было.


Па дарозе ў турму.


Так з вуліцы выглядае галоўная турма Брэмена.

Калі на аднаго-двух болей — адсылаем у суседнія землі.

**— А чаму б не паставіць у камеру другі ложак, хаця б часова?**

— Гэта забаронена. Нават часова. Ёсць норма: восем квадратных метраў на чалавека.

**— Найбольшая колькасць людзей у адной камеры?**

— Двое. Але такіх камер мала. У асноўным, па адным.

**— І гэта ўся ягоная "тэрыторыя свабоды"?**

— Не. Існуюць і ізаляваныя блокі: 35 зняволеных і 3 ахоўнікі-выхавацелі. Гэта — нібыта асобная "сям'я". У вольны час яны маюць права заходзіць адзін да аднаго ў госці, хадзіць па блоку. Стасункі неабходныя: яны павінны заставацца людзьмі і ў зняволенні. Абсалютная ізаляцыя разбурае чалавечую псіхіку. Мы абавязаныя думаць пра тое, што гэтыя людзі вернуцца ў грамадства.

**— Вы ўвесь час кажаце: ахоўнік-выхавацель. Дзве пасады спалучаюцца ў адной асобе?**

— Так. Людзі спецыяльна навучаюцца гэтай "падвойнай" прафесіі. Жыццё паказала, што так больш карысна для зняволеных і больш цікава для нашых супрацоўнікаў.

**— Ці ёсць спецыяльная турма для жанчын?**

— Не. Ёсць аддзяленне, дзе знаходзяцца маладыя злачынцы, там ёсць жаночая "зона". (Я прашу чытача не блытаць "зону" нашу і нямецкую. Тут — гэта толькі месца, дзе стаіць "крытка", як у нас называюць турму. У немцаў няма зон-лагераў у нашым разуменні.)

**— Ці існуе розніца ва ўмовах мужчынскіх і жаночых аддзяленняў?**

— Роўна настолькі, наколькі жанчыны адрозніваюцца ад мужчын.

**"НА КОЖНАГА ЗНЯВОЛЕНАГА — АДЗІН СУПРАЦОЎНІК ТУРМЫ?!"**

**— Якія сродкі аховы?**

— Сцяна вышынёй каля пяці метраў, электроннае пільнаванне, новая дротавая агароджа над сцяною...

**— ... праз якую прапушчана электрычнасць?**

*(Бачылі б вы выраз твараў нашых суразмоўцаў, калі ім пераклалі гэта пытанне...)*

— Nein! Ні ў якім выпадку! Ніякай электрычнасці! Проста праз такі дрот практычна немагчыма пералезці.

**— Ці здараліся ўцёкі?**

— Надзвычай рэдка.

**— Чым сканчваліся?**

— Уцекачоў лавілі.

**— Хто адбывае пакаранне ў гэтай турме?**

— Людзі, якія здзейснілі злачынствы з тэрмінам пакарання да васьмі гадоў: карупцыя, крадзёж, злоснае хуліганства, аферысты, неплацельшчыкі падаткаў. Ёсць забойцы, гвалтаўнікі, выкрадальнікі дзяцей, наркабізнесмены. Яны адбываюць тут апошнюю частку вялікага тэрміну, рыхтуючыся да выйсця на волю, да жыцця ў сучасным грамадстве.

**— А дзе сядзяць тыя, у каго тэрмін больш за восем гадоў?**

— У іншых турмах. Напрыклад, у горадзе Цэле зямлі Ніжняя Саксонія. Там асаблівы рэжым. Так, у нас "даседжваюць" апошнія гады свайго жыцця старыя злачынцы, у якіх пажыццёвыя тэрміны. Такіх няшмат.

**— Колькі чалавек ахоўваюць турму?**

— Аховы няшмат. Усіх супрацоўнікаў, якія займаюцца выхаваннем, аднаўленнем асобы і аховай ва ўсіх сямі аддзяленнях — 350. Калі да іх дадаць інжынераў, майстроў, настаўнікаў, урачоў, кухараў — гэта яшчэ 230 чалавек.

**— Атрымліваецца, што на аднаго зняволенага — амаль адзін дзяржаўны супрацоўнік. Ці не занадта дорага гэта для падаткаплацельшчыка?**

— Злачынцаў нам ніхто не падарыў: яны ўзгадаваныя ў нас, і гэта — нашыя памылкі. За такія памылкі грамадства заўсёды дорага плаціла.

**— У апошні час на крымінальнай карце Германіі з'явілася шмат інтэрнацыянальных пазнакаў. Мне здаецца, што Германія выпраўляе сёння не толькі ўласныя памылкі?**

— Ідзе прагрэсіўны сусветны працэс стварэння агульнаеўрапейскага дома. Кожны прагрэс мае свае негатывы. Гэта тычыцца і той галіны, дзе я працую. Мы выпраўляем нечыя памылкі, хтосьці выпраўляў і будзе выпраўляць нашыя. Гэта — аб'ектыўная рэальнасць.

**ФРАУ ПАЛКОЎНІК — БЕЗ ПАГОНАЎ**

**— Турмы ў Германіі падпарадкаваныя цывільнаму Міністэрству юстыцыі, а не сілавому Міністэрству ўнутраных спраў, як у былым СССР і ў сённяшніх краінах СНД. І вы, займаючы "рускую" палкоўніцкую пасаду, з'яўляецеся цывільным чалавекам, як і ўсе вашыя калегі. Пракаментуйце гэта.**

— Даўняя практыка сведчыць, што такое, невайсковае, падпарадкаванне больш карыснае і эфектыўнае і для зняволеных, і для грамадства. Ізаляцыя ад людзей, родных, дзяцей, каханых — самае страшнае з пакаранняў, і таму ва ўсім астатнім, мы лічым, не патрэбныя вайсковыя і паліцэйскія "строгасці". Педагогі і юрысты спраўляюцца з гэтай праблемай больш паспяхова, чымсьці палкоўнікі. Стогадовая гісторыя толькі адной турмы, нашай, таксама пацвярджае гэта.

**— Такім чынам, паліцыя не мае справы са зняволенымі?**

— Толькі на тым этапе, калі яна іх ловіць.

**— З якімі парушэннямі рэжыму ў турме вам даводзіцца сустракацца?**

— Грубасць, бойкі, агрэсіўнасць у дачыненні да суседзяў, рэдка — да персаналу.

**— Як караюцца такія парушэнні?**

— Пазбаўленнем на некалькі дзён магчымасці карыстацца тэлевізарам і радыё. Гэта цяжкае пакаранне. Нельга надоўга пазбаўляць чалавека інфармацыі.

**— Я ведаю, што ў вашай турме адменены карцэр, але я ведаю, што ён ёсць. Як гэта растлумачыць?**

— Ён ёсць і не адзін, але выкарыстоўваецца не як былы карцэр, а як памяшканне, дзе чалавек, які дапусціў сур'ёзнае парушэнне рэжыму, можа супакоіцца і паразважаць.

**— Чым карцэр адрозніваецца ад камеры?**

— Нічым. Тыя ж восем метраў, толькі ў скляпенні і без тэлевізара і радыё.

**— Як доўга парушальнік знаходзіцца ў карцэры?**

— Рэдка суткі. У асноўным, некалькі гадзін. Як толькі ён супакойваецца, яго адтуль забіраюць. Далей павінны працаваць псіхолагі і сацыяльныя супрацоўнікі, выхавацелі. Яны дасканала вывучаюць асабістую справу такога зняволенага і выпрацоўваюць меры ўздзеяння: гутаркі, кантроль, сустрэчы са сваякамі, з дзецьмі. Чалавек павінен адчуваць, што яго разумеюць і хочуць дапамагчы.

**— Адмена карцэра ў турмах — мера не вельмі зразумелая жыхару ўсёй прасторы былога СССР.**

— Я бачу, што вас асабліва цікавіць гэты момант, але не зусім разумею, чаму. Скажу толькі, што я патрабую ад сваіх калег, каб карцэр, нават як мера толькі "ізаляцыі ўнутры ізаляцыі", скарыстоўваўся імі ў выключных выпадках.

*(Калі б я мог гаварыць з маёй шаноўнай суразмоўцай — Leiterin der Justiz vollzugs an Stadt Bremen, што перакладаецца на беларускую як — кіраўніца прававых выхаваўчых установаў зямлі Брэмен, — калі б, дык я б распавёў ёй пра мае шматлікія наведванні нашых зон і турмаў, дзе замест аднаго зняволенага на васьмі метрах жывуць шасцёра, карцэры нідзе і ніколі не пустуюць. А яшчэ я б распавёў ёй, якія яны ў нас. І яна б тады не здзіўлялася маёй цікавасці да сістэмы пакаранняў у нямецкай турме і майму здзіўленню ў моманты, калі я ўяўляў сабе, як іхнія зняволеныя плаваюць у басейне...)*

**Навум ЦЫПІС, наш уласны карэспандэнт**

*Брэмен — Мінск*

*(Заканчэнне будзе).*

# ВЯРТАННЕ ІРМЫ ЯЎНЗЭМ



*Ірма Яўнзэм у маладосці. Мінск.*

Дом дружбы ў Мінску называюць "астраўком духоўнасці". У Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі часта праводзяцца вечарыны ў гонар людзей, лёс і творчы шлях якіх стаў сімвалам духоўнага яднання народаў і культур. Латышка Ірма Яўнзэм 100 гадоў таму нарадзілася ў Мінску. Сямейныя музычныя традыцыі ўзгадавалі ў ёй здольнасці спявачкі, а судакрананне з багатым меласам беларусаў выявіла незвычайны талент інтэрпрэтатара народнай песні. За выяўленыя ёй скарбы духоўнай культуры, шырокую іх папулярызацыю Ірме Яўнзэм адной з першых было нададзена высокае званне заслужанай артысткі Беларусі.

Служыла яна нашай культуры і тады, калі выкладала спевы і народную музыку ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве (1923 — 25 гг.). У 70-х гадах ва Усерасійскай творчай майстэрні эстраднага мастацтва народная артыстка РСФСР Ірма Яўнзэм вучыла В.Вуячыча, В.Шутаву.

У 1987 годзе я пісаў пра нашу зямлячку ў газеце "Літаратура і мастацтва". У 1988 годзе ў часопісе "Мастацтва Беларусі" (№ 3) змясціў грунтоўны артыкул пра Ірму Яўнзэм даследчык яе творчага подзвігу Іван Цішчанка. У 1995 годзе ў мінскай школе № 11 адбылося знаёмства са спадчынай таленавітай дачкі латышскага народа, спявачкі і збіральніцы вуснай народнай творчасці многіх народаў свету. Трэба заўважыць, што яна запісала 5000 песень і спявала больш як на 60 мовах.

У Доме дружбы, калі адзначаўся 100-гадовы юбілей Ірмы Яўнзэм, быў паказаны дакументальны фільм пра яе, і аўтар сцэнарыя Уладзімір Мехаў нагадаў многа невядомых старонак з яе біяграфіі. Да прыкладу, бацька Ірмы Яўнзэм, Пятро Янавіч быў рэпрэсаваны нібыта за сувязь з арганізацыяй Барыса Савінкава. І кляймо дачкі "ворага народа" мучыла яе ўсё жыццё.

Вядучы вечарыны пісьменнік Анатоль Вярцінскі запрасіў мастацкі калектыў 11-й школы праспяваць латышскія песні, беларускія мелодыі. Свае ўражанні ад голасу спявачкі выказаў пісьменнік Сяргей Грахоўскі. Ён успомніў Мінск тых часоў, калі ў ім жыла Ірма Яўнзэм.

Сярод удзячных слухачоў былі і вучні мінскай школы № 98, якая месціцца на вуліцы Яніса Райніса і дзе таксама вывучаюцца шляхі спараднення між латышскай і беларускай культурамі.

У перакладзе прозвішча "Яўнзэм" гучыць як "новая зямля". Такой была Беларусь для латышскіх перасяленцаў: яна стала ім роднай, зямлёй-ратавальніцай. І сёння на Беларусі, у Мінску жывуць латышы. Некалі ў доме Яўнзэм збіралася латышскае зямляцтва. Ёсць спадзяванні, што латышы, нашыя суайчыннікі, згуртаваўшыся ў таварыства, нададуць яму імя Ірмы Яўнзэм. І тады яна назаўсёды вернецца ў горад свайго нараджэння.

І яшчэ неабходна адзначыць, што на юбілейнай вечарыне ў гонар Ірмы Яўнзэм прысутнічала Часовы паверэны ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь пані Інгрыда Лаўрэнцэ. На гэты год спланаваны новыя мерапрыемствы па далейшым усталяванні латышска-беларускіх узаемадачыненняў.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня**
**Рады таварыства**
**"Беларусь — Латвія".**

# КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталі:**

5. Невялікі мастацкі апавядальны твор у прозе. 6. Кароткае апавяданне. 9. У музыцы: лірычны твор для голасу або музычнага інструмента. 19. Народны паэт Беларусі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. 14. Беларускі паэт, аўтар паэмы "Дзесяты падмурак". 15. Калектыўнае наведванне чаго-небудзь з навукова-асветнай або забаўляльнай мэтай. 16. Народны паэт Беларусі, грамадскі дзеяч. 19. Саліст (тэнар) Нацыянальнага тэатра оперы і балета Беларусі. 22. Мастацтва тэатральнага танца. 23. Чалавек, які кіруе аркестрам, хорам. 24. Артыст Рускага драматычнага тэатра Беларусі, выканаўца роляў караля Ліра, Атэла і іншых. 25. Прагны чалавек. 29. Ударны музычны інструмент. 30. Адзінка мовы, якая служыць для назвы асобнага паняцця. 31. Беларускі скульптар, адзін з аўтараў помніка Маці-патрыётцы ў горадзе Жодзіна. 36. Адзін з відаў мастацтва. 37. Польскі і беларускі паэт, фалькларыст XIX стагоддзя. 38. Праграма Беларускага тэлебачання для моладзі. 41. Інструментальная п'еса ў хуткім тэмпе. 42. Публічная спрэчка на літаратурныя, навуковыя і іншыя тэмы. 43. Кола роляў, якія выконвае акцёр. 44. Творчы супрацоўнік у якой-небудзь галіне выяўленчага мастацтва.

**Па вертыкалі:**

1. Група музыкантаў, якія сумесна выконваюць музычныя творы на розных інструментах. 2. Беларускі музычна-эстрадны гурт. 3. Кароткае, звычайна вершаванае, павучальнае апавяданне. 4. Малюнак з рознакаляровых каменьчыкаў, шкла, эмалі. 7. Апавядальны твор вуснай народнай творчасці аб выдуманых з'явах, падзеях. 8. Беларускі архітэктар, адзін з аўтараў мемарыяла "Хатынь". 11. Народны паэт Беларусі, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры. 12. Беларускі эстрадны спявак, народны артыст Беларусі. 13. Перыядычнае штодзённае выданне. 17. Беларуская спявачка, салістка Нацыянальнага тэатра оперы і балета Беларусі. 18. Артыстка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы. 20. Від выяўленчага мастацтва, дзе прадметы і з'явы прадстаўляюцца з дапамогай фарбаў. 21. Спаборніцтва з мэтай вызначыць найлепшых з яго ўдзельнікаў. 26. Надзвычайныя прыродныя ўласцівасці чалавека. 27. Сумесная праца з мэтай дапамогі. 28. У жывапісе: перадача постацяў або прадметаў у перспектыве. 32. Беларускі пісьменнік, перакладчык, аўтар апавяданняў пра Мінск. 33. Беларускі пісьменнік, аўтар аповесцяў "Знак бяды", "Пайсці і не вярнуцца" і іншых. 34. Салістка ансамбля-студыі "Сябры". 35. Музычны струнны інструмент. 39. Рэжысёр студыі дакументальных кінастужак студыі "Беларусьфільм". 40. Мастацкі прыём у літаратуры і мастацтве, заснаваны на адлюстраванні чаго-небудзь у камічным, смешным выглядзе.

**Крыжаванку склала**
**Аліна ПЯТРЭНКА**




## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, НАДРУКАВАНУЮ Ў № 1 ЗА 1998 ГОД

**Па гарызанталі:**
7. Макаёнак. 8. Лангбард. 9. Шымко. 11. Фарбы. 12. Багушэвіч. 15. Ісціна. 18. Мінкус. 19. Драйзер. 20.Вескі. 21.Буйло. 23. Пастэль. 26. Данцыг. 27. Звычай. 31. "Спатканне". 33. Юнона. 34. Бісер. 35. Фраганар. 36. Прыказка.

**Па вертыкалі:**
1. Марыніст. 2. Казка. 3. Канкан. 5.Абрад. 6. "Трубадур". 10. Эшпай. 13. Анікейчык. 14.Нікалаева. 16. Эрмітаж. 17. Бембель. 22. Хабанэра. 24. "Тоска". 25. Рахленка. 28. Спявак. 29. Анітра. 30. Кніга. 30. Пілат.

# АНЕКДОТЫ

* * *

Сімпатычны хлопец сядзіць за кулісамі сцэны побач з вядомай актрысай. Да іх падыходзяць мажны, сталага веку банкір і шэпча на вушка актрысе:

— Ці не пажадаеце вы прыняць ад мяне паўтысячы луідораў і падарыць за гэта вашую ласку?

— Пан банкір, — адказала ўладарка сцэны. — Я сама гатовая даць вам не паўтысячы, а тысячу луідораў, калі вы заўтра раніцай з'явіцеся з такім самым тварам, як у гэтага юнака, што побач са мной.

* * *

Сустрэліся сёстры — жонкі музыкантаў.

— Падумаць толькі, што за гульня прыроды! — ускрыквае старэйшая. — Мой муж іграе ў дуэце, а ў мяне нарадзіліся блізняты.

— Няўжо! — ускліквае спалохана малодшая. — Што ж мне тады рабіць? Які жах! Мой муж іграе ў квінтэце.

* * *

Заслужаны рэжысёр робіць прапанову маладой актрысе:

— Запрашаю вас зняцца ў маёй новай кінакарціне. Праз год абяцаю вам Оскара.

— Оскара? — з сумненнем перапытвае актрыса. — А раптам гэта будзе дзяўчынка?

* * *

Дзяўчына — свайму абранніку:

— Я сказала бацьку, што ты — паэт. І ён застаўся вельмі задаволеным.

— Паэт? Ну, добра. А што, хіба твой бацька любіць паэзію?

— Не, не! Проста мой папярэдні жаніх, якога тата спрабаваў выштурхнуць за дзверы, аказаўся баксёрам.

* * *

У вядомай кінаактрысы спыталіся:

— Адкуль у вас такія арыгінальныя залатыя каралі?

— О, гэта памяць пра маіх мужоў.

— Пра мужоў?

— Безумоўна! Каралі зроблены з заручальных пярсцёнкаў.

* * *

Пасля рэпетыцыі адзін акцёр кажа другому:

— А цяпер пайшлі на грамзапіс...

Заходзяць у тэатральны буфет.

— Роза, налі нам па сто грам і запішы на мяне.

**Падслухаў**
**Іван ШПАДАРУК**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4202.

Падпісана ў свет 22.01.97. у 16.00.

Замова 352.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.